Таіса БОНДАР

# СПАДЧЫННЫ БОЛЬ

**Паэзія**



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1987

* * *

*Скарбонка мінулага...*
*Спадчынны боль!*
*Лясы. Бранзалеты з запясцяў Рагнеды,*
*з пасагу яе, што прынаджвае беды*
*пад гэту расшытую зоркамі столь.*
*Курганне. Чужынцамі спалены шлях.*
*Палі, што крывёю стагоддзяў заліты.*
*І помста палонная...*
*Горыч малітвы*
*выплёскваюць сэрцы ў аглухлы абсяг.*
*Не горкія словы, а водгулле іх*
*замшэлыя сцены ўспамінаў хістае —*
*у цень іх бяссонна, балюча ўрастае*
*самотнае дрэўца ўспамінаў маіх.*
*Лясы, Галасоў іх магутны прыбой.*
*Здабытая воля. Гасцінец шырокі.*
*Раскопкі...*
*Забытыя словы... І крокі...*
*Ў скарбонцы мінулага —*
*спадчынны боль.*

# СОН-ТРАВА

З крыніцы высахлай — ваду не піць.
Гукаю продкаў. Блізкіх і далёкіх.
Гукаю песняй: песня — тая ніць,
што дні, гады, вякі нітуе лёгка.
Ёй дагукацца, ёй знайсці ў былым
разгадку нашай згоды — і нязгоды —
жыць толькі тым, што дадзена,—
сваім,
адзіна, як здаецца, мэтазгодным.
Не права — абавязак: не забыць,
адкуль, чые мы, чым мы часу плацім...
З крыніцы высахлай ваду не піць,
гады мінуць — капаць не дакапацца.
Адно: не памянуўшы час былы —
аплакаць свой,
шчаслівы тым, што сыты...

Спрадвек было: здаволішся малым —
не кінешся ў агонь, душой здабыты.
І больш таго! — пачнеш яго тушыць,
пакуль яшчэ ў тым розуме і стане,
што можаш жыць.
Што можаш — проста жыць.
Без страху. Без сумненняў.
Без пытанняў.
Было — і паўтараецца ізноў,

цяпер, калі мінула ліхалецце?
Гукаю продкаў.
З самых чыстых слоў
складаю песню. Хто мне адзавецца?

— Ой, у полі тры бярозкі,
між бярозак тры дарожкі...
Тры бярозкі — тры сястры,
тры дарожкі — тры вятры.

І куды якую вецер
павядзе па белым свеце,
не спытаешся ў зары.
Тры дарожкі — тры вятры.

А зара не дагарае:
згасне — ўспыхвае другая
ў адвячорка на гары.
Тры дарожкі — тры вятры.

З той гары відаць далёка,
на яе ўзысці нялёгка:
не зара — зямля гарыць...
Тры дарожкі — тры вятры.

Гэтулькі крыві пралітай
запяклося на малітвах,
колькі на мячах старых.
Тры дарожкі — тры вятры.

Шчэ мячы не паржавелі,
а ўжо кулі ўкруг звінелі,
распароўшы цвердзь гары.
Тры дарожкі — тры вятры.

Плачуць, журацца бярозкі,
не сыходзяцца дарожкі:
тры бярозкі — тры сястры,
тры дарожкі — тры вятры...

Складаю песню, і сумуе песня,
бо я спяваю пра сваіх сясцёр,
чые імёны веснія не ўскрэслі
у назвах рэк, паселішчаў, азёр.
Складаю песню, і сумуе песня,
бо я спяваю пра сваіх братоў,
чые магілы час упарта цесніць
за межы разараных ім гадоў.
Але жывуць нязводныя жаданні,
і ў іх народ мой, ратнік і ратай,
і сокал, сустракаючы світанні,
лятае там, дзе і спрадвек лятаў.
Лятае сокал, стоміцца — садзіцца
на белы камень, насупроць начы,
і слухае: ці то звініць крыніца,
ці то звіняць харобрыя мячы.
Калі крыніца: ў полі жыта родзіць,
у пушчы — поўна ягад і грыбоў,
у кожнай хаце, як пры добрай згодзе,
па тры калыскі вешае любоў.
Калі мячы,
то скрозь, на ўсім прасцягу,
ад Буга да Дняпра,— на паплавах,
у полі, ў пушчы, ўздоўж дарог засмяглых
цвіце не адцвітае сон-трава.
Трава, заклятая крывёю мёртвай:
там, дзе яна цвіце, лілася кроў...

Услухваецца сокал: колькі лёту
ад Буга да гняздоўя за Дняпром,

а ўсё — мячы звіняць, і зарастаюць
не дні, стагоддзі дзікай сон-травой,
так зарастаюць —
не згадае й памяць,
з якіх часоў зямля была жывой,
радзіла жыта, ягады спяліла,
дарыла іх агеньчыкі дзятве...
Сумуе песня. Быццам я згубіла
яе пачатак дзесьці ў той траве...

Ой, у полі, ў чыстым полі
вецер, трапіўшы на волю,
ў тым угледзіць добры знак,
нагуляецца усмак.

Нагуляе зноўку сілу
маладым магутным крылам,
каб яны і ў сне маглі
адрывацца ад зямлі.

Хай у шлях пасля ўпрагуцца,
стомай сцятыя, заб'юцца
і аціхнуць — зморыць сон...
Помніць сілу крылаў ён!

І прачнецца сіла гэта —
вецер стане буйным ветрам,
бурай стане, разаб'е
ковы звыклыя свае.

Сон — ён толькі сон, не болей.
Сіла — ў вечнай празе волі.
Толькі б ведаць міг, калі
адарвацца ад зямлі!

Адарвацца, шлях замесці,
агароджу неба знесці,
не між дрэў, між зор кружыць —
вольна дыхаць, вольна жыць...

Вось і вее, вее ў полі,
каб нацешыцца уволю
ці то сілаю сваёй,
ці то дужаннем з зямлёй.

Святочнасць волі... Крылы... Гэта сокал
(душа народа ў вобразе яго!) —
не стрэціў смерці, бо лятаў высока,
не трапіў у сіло, бо аднаго
трымаўся шляху, піў з адной крыніцы,
адной прасторы прагне для сябе...
Лятае сокал, стоміцца — садзіцца
на белы камень, і крыламі б'е,
і замірае, ўслухваецца ў песню,
нібы ў вякі, што калісь абляцеў.
І чэзне сон-трава. І смутак чэзне.
І рассыпаюцца апоры сцен.
Здаецца,
зруш, скрані ў той міг прастору —
павернецца яна, і новы шлях,
забыўшыся на нас і на пакору,
з якой жывём мы, пераможа страх,
страх перад цёмнай безданню нябыту,
страх перад сілай, большай за сваю:
не шлях, а я каля дзвярэй, забітых —
крыж-накрыж — роспаччу маёй! — стаю.
Не шлях, а я жалкую аб мінулым,
хоць шмат чаго б у ім не прыняла.
Туга па песні... Дзе яе прытулак,
як сон-трава дасюль не адцвіла?

# МЕНЕСК[1]

З гарачых слоў не выкаваць падкоў,
з забытых сноў не павыводзіць коней
таго, каго прыгадваю сягоння,
паданні
прыраўняўшы да вякоў.
Менеск... Асілак? Чарадзей? Млынар?
Кім ён даводзіўся зямлі вялікай?
Кім мне даводзіцца? Навошта клікаў,
падаўшы кліч, як падаюць ліхтар?
Ступіла і — успыхнуў змрок, і шлях,
скруціўшыся, усплыў у неба шарам,
і прамянёў яго сляпыя джалы
абмацваюць чужы вачам абсяг.
Ступіла, трушчу іх — зарагатаў,
затросся ў рогаце нябачны хтосьці:
— Харобрая... Да Перуна — у госці?
Не страшна? Род твой страху паспытаў...

Я крыкнуць, адказаць яму хачу.
І камянею: не імгла густая —
вакол курган каменны вырастае...
— Менеск! — рот раздзіраючы, крычу.
Імя ці кроў, што выступіла з ран
і капала на схаладнелы камень,
вяртала сілу: павяла рукамі —
падаўся і рассыпаўся курган.
Між валуноў, атрослы іх з павек,
ляжала цішыня — бы ў сне глыбокім,
на ўсім працягу, колькі ўхопіць вока,

---

[1] Асілак, чарадзей, які, згодна паданця, заспаваў Мінск.

нячутна дыхаў невядомы век.
Ні дрэва, ні замшэлага карча,
ні ручайка — каменне і каменне!
Заклятая зямля... Маё збавенне...
Збавенне — ад чаго? Прасцяг маўчаў.
Мне стала страшна. Страшна ўпершыню.
І за сябе, і за зямлю, што мёртвай
была мярцвей,—
груган над ёй не лётаў,
ні дзень, ні ноч не развялі агню.
Менеск гукаў? А дзе ж яго сляды?
Пад камянямі? Знішчаны закляццем?
Менеск гукаў...
Я ж чую голас маці!
Я чую песню маці — праз гады...

*

— Ды пытаўся месячык
у яснага сонейка:
«А сонейка яснае,
ці пара мне ўсходзіці?..»

Сонца не адказвае
ні яму, ні песні:
шлях — яго прывязвае
да нябёсаў весніх.

Покуль дол не высцелюць
кветкі дзікай ружы,
ані дня не выспеліць,
ні начы не здужаць.

Пасткаю каменнаю
спомін абярнуўся.

Што ж ганяць праменнем
цішыню па крузе?

Што ж трымацца памяці?
Шлях адзін. Нязменны.
Столькі вёрст да раніцы,
колькі ўсцяж камення...

*

Падхопліваю песню і вяду,
вяду матыў няхітры, ўслед за маці.
Смялей, грамчэй! —
і змрок пачаў ламацца,
і вецер — з кожнай шчыліны падзьмуў.
Падзьмуў — і застагналі камяні.
І згасла песня — неба запалала.
З агню, з яго патоку вырастала
цяжкая постаць — верхнік на кані.
Менеск!
Цячэ з-пад капытоў каня
шырокая — у два канцы — дарога,
вакол яе — не мёртвая аблога,
а лес і лес, дзе поўна варання,
дзе поўна нор звярыных, поўна пчол,
дзе праз гушчар і крык не прадзярэцца.
Конь набліжаецца — і вецер б'ецца
пад капытамі і крывавіць дол.
Усё бліжэй... Закрыў паўнеба цень:
Менеск спыніў каня, рука ўрачыста
ўзнялася — і з глухім халодным свістам
цяжкая дзіда раскалола дзень.
І — хлынула з-пад каменя рака,
шчэ міг —
і млынам стаў той камень чорны,

сем дужых колаў закруцілі жорны
гісторыі.. Якая з іх мука?!
Гады — на жорнах, нават не гады,
а камяні, што з іх павыпадалі.
Адна, другая — трэцяя ўжо далеч
павольна адступіла ад вады!
Сем дужых колаў разганяюць плынь:
узыдзе — зойдзе сонца,
зойдзе — ўзыдзе...
Як на шастку, на паржавелай дзідзе
трапечацца ўжо выцвілая сінь.
І не Менеск, сівы як лунь млынар
услухваецца ў шум магутных колаў:
яго мука — каменнага памолу,
ды хлеб з яе надзелен сілай чар.
Народ, які на хлебе тым расце,
зазнае гора, і багата гора,
але і ў дні,
дзе што ні ліст — то воран,
не будзе душ — дабрэй,
і слёз — чысцей...

*

З доляю-нядоляю
біцца кожны мусіць.
Хто каго адолее?
Час міжволі схлусіць...

За цяжкім куродымам
не разгледзець шляху,
ад бяды да роздуму —
папялішчы страху.

Капішчы паганскія —
вогненныя колы,

што кастры гіганцкія
Перуновай воляй

на гары раскручвалі,
каб укленчыў кожны
прад зямлёю змучанай,
прад уладай божай.

Залатымі стрэламі
ён, Пярун, карае
тых, хто снамі смелымі
будзіць песні краю.

Песні стануць мроямі,
мроі — той трывогай,
што аберне воямі
ўсіх дзяцей Дажбога.

Ім не знацца з воляю,
а трывозе — збыцца:
з доляю-нядоляю
кожны мусіць біцца.

*

Ці кожны? Ды паданне — не адказ...
Рака вядзе паселішчы паўз пушчы,
стары млынар паглядам невідушчым
вядзе раку, распытваючы час,
ці разляцеліся ўжо груганы,
ці засяваюць плачам поле ўдовы,
ці ўсходзіць жыта там,
ці ўсходзяць словы —
ці сцерагуць іх сілу курганы.
Каня аддаў — ці ж аднаго каня! —

малоў і меле камяні іх долі,
ці дойдзе, ці здабудзе сабе волю
народ, што ён, Менеск, абараняў?
Ён ведае. Ды хай адкажа час,
каго нясе ў сядле той конь імклівы,
куды імчыцца, апаліўшы грыву
у полымі... Паданне — не адказ.
Паданне — гэта той чароўны бліск,
які высвечвае старое слова,
імя старое... Іскрай з-пад падковы —
Менеск! А потым — Менск...
А потым — Мінск...

## СВІЦЯЗЬ-ВОЗЕРА

Хто бяду не выглядае,
пэўна ж, не згадае,
як красуня маладая
на бядзе гадае.
Падманутая чаканнем
любага няверцы,
у яго слядочак камень
кіне разам з сэрцам.
Кіне і не азірнецца,
закінуўшы свечку,
ні на камень, ні на сэрца
да саменькай рэчкі.
Азірнецца — ужо й рэчка
ахалодзіць ногі! —
каб на жвір паставіць свечку
пры канцы дарогі.
Хай святло закамянее,
як задзьме вятрыска...

Перад ёй вада чарнее
люстрам сатанінскім.
Пачакаць —
і ў люстры чорным
з'явіцца ёй любы,
не адзін — з каханкай...
Гора
падштурхне да згубы.
Пачакаць і...
Раптам хвалі
(грывы ў пене цёмнай)
па рацэ пабеглі — ржалі
хвалі, быццам коні,

Гэта коні ўжо й ляцелі
паўз яе і вербы!
Калі б можна — пацямнелі
і вада і неба...
Не цямнелі. Нечакана
сціхла ўсё навокал.
Цішай жудасна-крамянай
дыхалі аблокі —
ні адзін у люстры чорным
з іх не адбіваўся...

З маладога яе гора
хтосьці пасмяяўся?
Ці нядобры знак ёй неба
пасылала?
Хвалі...
Коні ржалі...
Кроў на вербах...
Воблакі ўздыхалі...
Чорная вада дагэтуль
быццам нежывая!
Не інакш, пагібель гэта.
Не яе. А краю.
Горад жа
паслаў дружыну
князю на падмогу,
абязлюдзеў: ці ж жанчыны
бараніцца змогуць?

Перакінулася свечка,
ўздрыгнула сінеча —
за красуняй следам рэчка
кінулася бегчы.

— А па братку званы звоняць,
па сястры людзі гавораць.

Па братку людзі плачуць,
а па сястры воран крычыць...

Рана, позна —
воран кружыць
над старым дзядзінцам?
Свіцязь-горад плача-тужыць:
лепей парадніцца
з апраметнай, з цемрай вечнай,
чым з разгулам вояў!
Хай пярэйдзе дзень на вечар
праз буркун і тоню,
што жанкі паўз шлях насцелюць,—
ім, жанкам ды дзеўкам,
не крануўшыся пасцелі,
спрасці ўсю кудзельку.
І на кроснах з чыстай пражы
выткаць да світання
той ручнік, што гора звяжа,
што заклёнам стане.

Верацёны заспявалі,
кросны зазвінелі —
тчэцца, тчэцца спадзяванне
на сваё збавенне.
Месяц — добры памагаты:
ручнічок, што тчэцца,
асвятляе кросны, хату,
ўсю зямлю, здаецца.
Сонца ўзыдзе — свіцязянцы
самай прыгажэйшай
крок за крокам,
нібы ў танцы,
ручнічок развешаць,
на высокай агароджы

ўкруг замовы кожнай —
і ніхто з сыноў варожых
зняць заклён не зможа...

Плачуць вочы — да світання,
да распеўкі пеўняў,
тчэцца, тчэцца спадзяванне
на сваё збавенне.

— А па братку званы звоняць,
па сястры людзі гавораць.
Па братку людзі плачуць,
а па сястры воран крычыць...

Рана-рана воран кружыць
над старым дзядзінцам.
Свіцязь-горад плача-тужыць:
каля сцен — чужынцы.
У пару ручнік сатканы,
у пару скатаны —
ім абвязаны світанак
здрадзіў спадзяванням.
Ні малітвы, ні заклёны
вояў не спынілі.
Воі, воі... Столькі коней
далеч засланілі!

Горад адаслаў дружыну
князю на падмогу —
абязлюдзеў: ці ж жанчыны
бараніцца змогуць?
Воям — цешыцца красою
і крыві напіцца...
Лепш бы —
кожнай з іх касою

ўласнай задушыцца!
Хто прамовіў гэта?
Важна:
не было — адступніц.
Звон запеў:
вось-вось той страшны,
светлы міг наступіць.
Хай рука не здрыганецца,
хай каса ўтрымае! —
гэткіх гордых,
мужных сэрцаў
іншы край не знае.
Звон пяе. Пяе ўрачыста,
так, нібы й не чуе
храпу коней,
стрэл,
іх свісту,
лаянку чужую.
Сцены горада напору
сілы гэтай чорнай
не стрымаюць — хлыне гора
і затопіць горад.
Іх збавенне — толькі ў смерці,
смертны міг іх блізка...
І —
ў шалёнай крутаверці
ўсё сплялося — ў бліску! —
горад,
і яго нябёсы,
і яго жанчыны,
і шалёныя пагрозы
ратнікаў злачынных.

— А па братку званы звоняць,
па сястры людзі гавораць.

Па братку людзі плачуць,
па сястры воран крычыць...

Рана, позна — кружыць воран
там, дзе ад заклёну
абярнуўся Свіцязь-горад
возерам сцюдзёным,
дзе чужынцы,
разам з коньмі,
ўрослі ў дол па плечы,
сталі лесам, змрочным, цёмным —
сонцу не прабегчы.
Не гады мінуць, стагоддзі —
і прамень зіркаты
прадзярэцца, сцежкай пройдзе
праз гушчар закляты.
Пройдзе, і вады кранецца,
і ваду засвеціць —
ажыве яна, памкнецца
промнем адагрэцца.
Промня мала.
Трэба сонца! —
з сонцам прыйдуць людзі.
Свіцязь-возера да донца
ўскалыхнецца, збудзіць
згадку, дзіўную, як песня,
што ручнік саткала,
ручніком світанак весні
тройчы абвязала,
што званіла ў звон
і стрэлы
першаю страчала,
што, здавалася б, памерла —
а жыла, гучала.
І дасюль яна жывая!

Кажуць у народзе:
Свіцязь-возера спявае —
чары-кветкі ўсходзяць.
Іх пялёсткі адгараюць,
як пялёсткі знічак...
Гэта — песня.
Гэта — памяць
свіцязянак кліча.

# ДОЛЯ

Паміж мной і дасвеццем,
паміж мною і мною,
паміж мною і смерцю —
рода
дрэва жывое.
Карані яго з нетраў
п'юць падземныя воды,
голле дыхае ветрам,
надвышынным, халодным.
Пад навесмамі голля —
гнёзды новых стагоддзяў.
Зазірнуць бы, здаволіць
думкі! — страх перашкодзіць.
Ужо варыцца зелле
на заручыны з сэрцам...
Не замужжа — дык келля?
Келля!
Гэткім, мой свеце,
гэткім выбар мой будзе,
сёння, заўтра, заўсёды,
покуль ёсць яшчэ суддзі
майго краю й народа.
Манастыр, яго сцены
стануць схронам і сховам,
для высокіх памкненняў,
для высокага слова.
Адгукнуцца ў народзе
і памкненні і словы!
Гнёзды новых стагоддзяў...
Пошук ісціны новай.



Доля... Не моляцца долі.
Значыць, хай слухае бог!
Хто, нарадзіўшыся вольным,
волі сваёй не збярог —
даўся распяць сябе,
згвалціць,
твар змаляваць для ікон,
быў бы аплаканы маці,
так, як вядзецца спакон,
і — не ўваскрэс!
І няпраўда —
тое, што ён уваскрэс,
вечнасць у смерці —
прынада...
З бераю ў вечнасць, ці без,
кожны прымаў і апраўдваў
бога, слабога ў бядзе,
а памаліўшыся, праўду
ўсё-ткі шукаў у людзей.

Доля... Не моляцца долі.
Значыць, хай слухае бог:
страхам прыдуманы, болем,
мукай,— каму ён памог?
Чым? Далучэннем да цуду?
Сілай маўчання свайго?
Больш я змагу, калі буду
дзейнічаць імем яго!
Больш і здалею і здзейсню!
Плата? Сумненняў жарства.
Побач — малітва і песня,
вера і цуд храства.
Побач — і ў розным, і, можа,

іх у адно не злучыць...
Можа...
Ды кожны ж храм божы —
гімнам народу гучыць,
гімнам майстэрству і працы!
Можа...
Не, воляй людзей —
храму вякамі ўзвышацца,
ззяць над кладзішчам надзей.
Столькіх надзей!
Я ж павінна
верыць найгоркаму з дзён:
хай не надзеі, ўспаміны
некалі — збудзіць мой звон!



Звон хіснецца — і сінню
хлыне дзень ад парога...
Гэта я, Ефрасіння,
загукаю з былога.
Загукаю нашчадкам,
пра іх доўг нагадаю —
і самотная згадка
звон нябёс разгайдае.
Звон, адзін на бязмежжа
высі, ветру і сіні —
дзень ці век яму вежай?

Гэта я, Ефрасіння,
на прыступках каменных
свайго лёсу і веку
зноўку трушчу сумненні
ў бозе і ў чалавеку.
Як змагу, як здалею —

іх у снах пахаваю,
каб заззяла надзея
над спакутваным краем,
каб збудзілася слова,
паднявольнае плачу...
Здзейсню імем Хрыстовым?
Як, скажыце, іначай?

Паміж мной і дасвеццем,
паміж мною і мною,
паміж мною і смерцю —
рода
дрэва жывое.
Дрэва цягнецца ўгору
і высушвае глебу —
не адступіцца гора,
не падымецца неба,
покуль потам, крывёю
ды слязьмі паліваем
гэта дрэва жывое...

Я — надзеяй жывая!
Я — не ў храме каменным,
не на фрэсцы размытай,
я — той храм, тыя сцены,
тыя словы малітвы,
што да ісціны новай
шлях шукаюць зацішны...
А што шлях той — Хрыстовы,
дзе, скажыце, быў іншы?
Як знайсці было ў крыўдзе
сілу?
Час — на каленях.
Не прыйшоў яшчэ — прыйдзе
час для смелых памкненняў:

ён шукае і знойдзе
тых, што ўспыхнуць кастрамі,
каб збудзіць у народзе
гнеў, што й бога дастане.
Адгукнецца ў народзе
праўда іх маладая!
Гнёзды новых стагоддзяў
дрэва роду гайдае...

# ГАДЗЮКА

Перш было паднябессе. І сонца на покуці
ранка.
І зямля, што не знала агню. І трава
дзівасіл.
І адвечнае дрэва ракі. І яго калыханка,
пад якую раслі і дужэлі навокал лясы.
Перш быў камень. Звычайны, яшчэ
не апрацаваны камень.
І агонь, што бяду ад бяссоннай начы адганяў.
І зярнятка, расцёртае не даланямі — вякамі.
І дарога — з-пад ног акрылёнага бегам
каня.
Ад дарогі пайшло...
Кожны меўся дарогу агарадзіць.
Кожны мкнуўся другога на ёй хоць на крок
абысці.
Як не ўменнем, дык сілай.
Не сілай, дык зайздрасцю чорнай
да таго, ў каго конь, да таго, хто каня
адпусціў:
хто вярхом на кані, той скароціць дарогу,
няйначай,
і вянок пераможцы здабудзе за сілу каня,
хто каня адпусціў, адпусціўшы тым самым
удачу,
той не стане здабычай дарогі й яе вараання.
О, зайздроснікі зналі, каму і чаму
пазайздросціць,
і не ямы капалі (хоць ямы таксама былі!),
а атручвалі душы людскія гадзючаю злосцю,
каб за кожным з Абраных — гадзюка паўзла
па зямлі.

Пазайздросцілі сіле — і дужых саджаюць за
краты,
у ярмо запрагаюць ці робяць спажывай
кастроў.
Пазайздросцілі слову — і той, хто быў
Богам,— распяты,
і не знойдзеш па сёння шчаслівых сярод
песняроў.
Пазайздросцілі шчасцю — і вось ужо ў
продажы шчасце:
калі золата ёсць, то спяшайся чым болей
купіць,
калі не — то спяшайся любога з жывых
абакрасці...
О, зайздроснікі знаюць, чым лёгка душу
атруціць!
Ёсць у золата сіла.
Але сатанінская сіла.
Той, каму яна служыць, мярзотнікам шлях
завяршыў.
Род іх не перавёўся, бо з кожнае іхняй
магілы
выпаўзае гадзюка — у пошуку новай душы...

*

Даўно было. Калі — ніхто не скажа.
Жыў чалавек Гадзюка. Страшна жыў.
За медны грош
мог свет запэцкаць сажай,
за залаты — скруціць вяроўку з жыл.
Усё хадзіў балотам, усё прагнуў
знайсці кубло гадзюк, і ў тым кубле —
кадоўб чароўны, скарб, закляты багпай,
і, не знайшоўшы, праклінаў сябе.

Лавіў гадзюк, прывязваў за галовы
да хісткае галіны угары
і ў слізкіх звівах,
сутаргах хвастовых,
купаўся, бы ў струменях, да зары.
І так бы перавёў ён іх нямала.
Але аднойчы — ўжо хацеў ісці —
адна з прывязаных гадзюк упала
і не ўцякла, а пачала расці.
І стала, ўрэшце, як не сатаною —
ужо ж адным з браценікаў яго.
— Не там шукаеш скарб. Ідзі за мною.
Пакуль не ўспыхне ўкруг цябе агонь.

І той пайшоў.
І ўкруг агонь успыхнуў:
сярод гадзюк, у страшным іх кубле,
звіваўся той агонь — кіпела ліха
у аграмадным вогненным катле.
— Тут кроў, і пот, і слёзы чалавека
кіпяць. Зачэрпні жменю і глыні —
і будзеш да скапчэння свайго веку
ты багацець за кошт іх
дзень пры дні.
Чаго марудзіш? Чэрпай. Гандаль чэсны:
табе — навука, мне — душа твая!

Той болей не чакаў. Паўней зачэрпнуў.
І выпіў.

Дзён праз колькі ачуняў:
праезджы двор, падводы пад'язджалі
да брамы, проста ў двор,
і ў іх — тавар...
Шынок, няйнакш. Яго з шынка гукалі:
— Куды закочваць бочкі, гаспадар?



Даўно было. Калі — навошта згадваць?
Апошні грош свой неслі ў той шынок
з усёй акругі беднякі — бы ў радасць
быў ім атрутнай горычы глыток.
Глыток, другі — глядзіш, і свет хіснецца,
і ты ў ім, хоць гаруеш,— не жабрак:
ярмо на шыі, ўкруг — малыя дзеці,
і вып'еш — дык за пот свой, не за так.
За пот і кроў, за матчыныя слёзы,
за плач дзяцей галодных па начах...
Чаго ён варты, грош, як па дарозе —
шынок, куды б ні паварочваў шлях?
Шынкар умеў (не чалавек — гадзюка!)
пацмокаць языком, паспачуваць,
наліць усім, каго прыгнала мука,
і ўсіх, як ёсць, да ніткі абадраць:
хай цягнуць за сахой чужое поле,
хай дохнуць за работаю... Народ!
Ім дзень і ноч гараць сваю нядолю,
збіраць у чарку свой крывавы пот.
Крывавы пот, і матчыныя слёзы,
і плач дзяцей галодных па начах...
Чаго ён варты, лёс, як па дарозе —
шынок, куды б ні паварочваў шлях?

Сам сатана за шынкара стараўся:
ад грошай пухлі скрыні ў паграбах.
Ды час ішоў. І век прайшоў. Стаптаўся.
Спярша да шынкара пастукаў страх.
Шынкар павесіў сем замкоў, засовы,
жалезам аканіцы абабіў.
Ды й гэтак дом не стаў надзейным сховам:
у дзверы стукаў страх — як молат біў.

Смерць недзе блізка. Прадчуванне смерці
загнала шынкара у паграбы,
бліжэй да грошай: ён не мог памерці —
ён не хацеў! — ён гэткі скарб набыў!

*

Даўно было. Калі — ніхто не ўспомніць.
Адно вядома: справа сатаны.
Між скрынь з грашыма, чуючы прадонне,
шынкар кідаўся — ён не знаў цаны,
якую хутка смерць з яго запросіць,
а што запросіць многа — добра знаў!
Не даць бы лішняга!
Хай бедных косіць...
Каторы год — галодная вясна.

Шынкар чакаў. І смерць прыйшла. Апоўнач.
Ён скрыню-дзве — усё прапанаваў.
Ён зваў і Бога й Сатану на помач
і сыпаў грошы: Ей — не шкадаваў.
А смерць смяялася: — Не да гасподы!
Хай стануць яны тым, чым і былі,—
крывёю, потам і слязьмі галодных.

І знікла. Смех пачуўся з-пад зямлі.
І абярнуўся скарб, сабраны ў скрынях,
крывёю, потам і слязьмі людзей —
і захлынуўся ў іх шынкар, і згінуў
шынок пракляты,
перш чым выспеў дзень.
Хто праязджаў па шляху, пэўна, бачыў
вялізную гадзюку, што паўзла
узбоч яго, туды, дзе лес пазначыў
мяжу яшчэ няяркага святла...

Сіла золата... Гэта спрадвек сатанінская
сіла.
Той, каму яна служыць, мярзотнікам шлях
завяршыў.
Род іх не перавёўся, бо з кожнае новай
магілы
выпаўзае гадзюка — у пошуку новай душы.
Колькі іх ні знішчаюць, а знішчыць дагэтуль
не могуць.
І за золата людзі не адно што душу аддаюць —
і сяброў, і любоў, і свой род, і айчыну, і бога,
кім бы бог ні даводзіўся ім у жыцці, прадаюць.
Прададуць! — хай надарыцца толькі зручнейшы
выпадак,
прададуць! — не згадаюць ніводнай пякучай
слязы,
за адзін толькі бляск або прывід багацця і
ўлады,
за адзін толькі бляск...
І якія пасля тармазы!
Што там пот або слёзы! —
жыццё забяруць за жаданне
колькі хмельных імгненняў з бліскучага кубка
адпіць...

Ёсць у золата сіла. Ды перш была сіла
яднання.
Перш было разуменне, што трэба — душу
бараніць.

## ЗВАНЫ

Звініць, гудзе абшар —
сам час, яго званар,
атросшы кажаноў,
збудзіў тугу званоў.

Звіняць, гудуць званы —
іх гул вадой Дзвіны
выкочваюць гады
з бяды, з бяды, з бяды...

*

Агню цяжкія касмылі,
званоў туга цяжкая...
Дачку язычніцы-зямлі
час ведзьмай наракае:
паданні даўніны сівой
любіла згадваць?
Ведзьма!
Уплятала ў валасы павой
пры стрэчы з сонцам?
Ведзьма!
Прасіла ў сонца залатых
зярнят для поля?
Ведзьма!
Чакала у сухмень — слаты,
ў слату — марозу?
Ведзьма!
Адроддзе гэтае зямлі,
крываваю купеллю
ахрышчанай тады, калі
стагоддзі захацелі,

не цалавала крыж святы?
Адвергла мукі бога?
Згарыць вядзьмарка
на кастры:
такіх — караюць строга.

Манахі, быццам груганы,
збіваюцца у зграі:
як на душы няма віны —
ёй апынуцца ў раі,
а ёсць —
сам д'ябал у агні
над ёю
поўсць апаліць...

Згарыць вядзьмарка — груганы
накінуцца на памяць:
гукала жаўранкаў вясны
сваёю песняй?
Ведзьма!
Збірала пахі траў лясных,
настойвала іх?
Ведзьма!
Настоі церпкія свае
за лекі мела?
Ведзьма!
У хаце хлеба не стае,
а не памерла?
Ведзьма!
Дзіця на вастрыі ляза
сканала моўчкі?
Ведзьма!
Агонь расклалі — каб сляза
упала з вейкаў?!
Ведзьма!

Адроддзе гэтае зямлі!
Ёй мала божай кары.

Агонь шугае — касмылі
чапляюцца за хмары...

*

Не звон — агонь гудзе:
адхлынуў люд, калі
пачуўся стогн з грудзей,
з грудзей самой зямлі.

Балючы стогн... Ён рос —
вось-вось кранецца хмар...
І паплыло з нябёс:
удар! удар! удар!

*

Званы... Якому з іх язык
ліхі чужынец вырваў?
Не сіла знікла, голас знік,
караючы, грымлівы.
Маўчыць,
калі іканастас
успыхвае ад енку,
і вочы княжы багамаз
выпрошвае ў калекі.
Маўчыць,
калі мячы з магіл
выкопваюць былое.
Калі праклёны небасхіл
запырскваюць крывёю.
Калі на кожнае страсе

агонь гняздоўе ладзіць
і ашалелы конь нясе
надзею жыць папраўдзе.
Маўчыць,
зняволены, як край,
нямы, як люд пабіты.
І колькі год ні паўтарай
завучанай малітвы,
малітва не аберне звон
у неба воляй бога:
з няволі цяжкае здавён
адзіная дарога —
змаганне!
Шмат людской крыві
сысці ў зямлю павінна,
каб звон магутны ажывіць:
маўчыць —
на ўсю краіну.
Маўчыць,
калі князі яго
садзяцца ў лодку смерці.
Калі ўсе рэкі з берагоў
выплёскваюцца ў вецер
і вецер топіць дні — гады! —
у чорных, мёртвых хвалях.
Маўчыць,
калі вакол бяды
кладзішчы горбяць далеч.
Калі, сціскаючы святло
у бліск, маланкі блішчуць
і шлях, шукаючы жытло,
знаходзіць папялішчы.
Маўчыць...
Але ў гушчары год
ад помсты — нарадзіцца

таму, хто збудзіць звон,
народ
падняўшы на чужынцаў.
Не сіла знікла, голас знік —
закамянела крыўда!

Званы... Якому з іх язык
ліхі чужынец выдраў?

*

Прарокаў — як сычоў,
зноў не дагледзець сноў...
На ўсходзе — звон мячоў,
на захадзе — званоў!

Вайна, вайна, вайна
за княжы стол ідзе...
Звінець, гусці званам
над кожнаю з надзей!

*

Званы...
Які з іх не збіраў
свабодны люд на веча?
Зноў межы княства вымяраў
ад сечы і да сечы
і новы князь, як і стары,
і ўнук, і праўнук княжы...
Маліліся манастыры
за ратнікаў адважных.
Усе складуць галовы:
рацьць
свой гонар, і краіну,

і свет хрышчоны адстаяць
ад ворага павінна.
А як, за кошт якой крыві,
за кошт якое здрады,
не ўведае ніхто з жывых —
не зможа ўведаць праўды.
Што вораг люты! —
як браты
па веры хрысціянскай
шукаюць колькі залатых
на мёртвым тым папаску,
дзе пасвяцца адно вятры
пасля чарговай сечы...

Не слухае, не чуе Рым
ні слоў, ні слёз, ні мечаў.
Зноў льецца кроў?
Хай льецца кроў!
Зноў стогне звон?
Хай стогне!
Яшчэ не час да ўсіх дароў
дадаць агонь Хрыстовы.
Ліхія полчышчы Арды,
нягоды міжусобіц
знясіляць...
О, латынь тады
царкве й агню пасобіць!

Не слухае, не чуе Рым
ні слоў, ні слёз, ні мечаў.
Няхай высвістваюць вятры
між курганоў спрадвечных,
што скрозь, па ўсёй мяжы зямлі,
мяжы сярэднявечча,
куды прыйшлі, куды дайшлі,—

ад сечы і да сечы,
стаяць, гатовыя прыняць
у дол, у змрок магільны
і ворага ліхую рацць,
і — палачан... Літвінаў...
Чакаць нядоўга: крыжакі
агнём будуць выпальваць
дзядзінцы, храмы, бальшакі
і — памяць, памяць, памяць!
Навошта памяць тым, каму
у кожнага суседа
даўно прыдбана па ярму,—
ці ж разарваць ім беды?

Гады, вякі... На іх асцё
наколата бязмежжа:
дзе быў сабор —
цяпер касцёл
а дзвюх спічастых вежах.
Дзе юных пеўчых галасы
гучалі гімнам светлым,
гудуць арганныя басы,
палохаючы пеклам...

*

З малітвай на губах
палі, глуміся, рэж!
Крыжы — на купалах,
крыжы — на дзідах веж.

Адчай — каторы раз! —
зямлі не дапамог:
імя ахвяры — Час,
імя забойцы — Бог.



Званы...
Які з іх груганнё
паадганяў ад поля,
што не слязьмі, а ячмянём
засеяла нядоля?
Узыдзе,
зашуміць ячмень,
на жорны колас ляжа,
цяжкую лусту хлеба дзень
на далані узважыць
і меншаму з усіх сыноў
падасць з паклонам нізкім:
няхай расце і груганоў
прагоніць ад калыскі,
ад хаты,
ад магіл дзядоў,
ад змучаных ратаяў,
што ўсё гаруць дзірван гадоў
пад будучыню краю.
Няхай расце.
І груганоў
накорміць іх жа мясам.

Званы...
Няма ўжо тых званоў,
што патуралі часу.
І час — не той,
і званары
глядзяць не толькі ўгору...

Гудуць званы?
Шумяць бары,
сабраўшы непакорных.

Шумяць бары?
Трава шуміць
над тымі, каго ўкрыла.
Трава шуміць?
Былое спіць
у ручніка на крылах...

## СНЕГ УСПАМІНУ

Колькі смутку ў нашых песнях!
Запяеш — здаецца:
хмары ўкрыюць паднябессе,
жаль агорне сэрца.
Песні — жаліцца нядоля,
не яна — каханне...
Песня просіцца на волю,
а ляцець не ў стане.
Узлятае і садзіцца
на плячо галубкай:
— Ты, зямля-зямліца,
дай вады напіцца.
Тады перастану
па любай журыцца,
тады пазабуду,
як у зямлі буду...

Заспяваеш — і трывожна
ўслухваешся ў словы,
бы трывога дапаможа
аднавіць нанова
час далёкі,
лёс трагічны,
мёртвае каханне...
Мёртвае... А голас кліча
тую, што не ўстане:
— Тады пазабуду,
як у зямлі буду!
Тады пазабуду,
як у зямлі буду!



Зямля прымае ўсіх,
ёй не патрэбны слёзы:
усё, што позна,— позна,
хай спознішся на міг.
А тут — не міг, вякі...
Бяжыць без сцежкі песня
з Алесем і Алесяй —
насустрач, напрасткі,
праз першае «люблю»,
праз горкую разлуку...
І — не падставіць рукі,
і — не спыніць зямлю.
Вясна? Адкуль ім знаць —
цвітуць снягі ці вішні?
І месяц бы не лішне
да брамы прывязаць.
А то за імі ўслед
шукае край дасвецця.
Алесь! — і захлынецца —
Алеся! — шэптам свет.
За шэптам паплыве
знаёмае наўколле:
шнурок таполяў, поле,
кладзішча пры царкве,
маёнтак, цень яго
пачварна-аграмадны...
Вясна... Ці ж падуладны
ёй каляндар багоў?
Цвіце бялюткі снег,
ды вецер зоркі сее
там, дзе прамчыць вяселле
пад звон зярнят і смех —
праз першае «люблю»,

праз вечную разлуку...
І — не падставіць рукі,
і — не спыніць зямлю.

*

— Савет вам ды любоў,—
пан прыпыняе коней.—
Ды гэта — заўтра. Сёння
мне — ўпіцца маладой!
Красу-уня... Плод даспеў.
Ужо ж! На добрым полі.
— Паночак, дайце волю,
я адраблю...
— Пся крэў!
Скажы я цівуну...
Не першы — не апошні.
Здаволіць дзеўка — грошай
не пашкадую. Ну!
— Алесь! — дзявочы крык
апёк Алесю скроні.
Рванулі з месца коні,
ўзрываючы цалік.
Пабег насустрач шлях,
увесь ва ўладзе гону —
бы вырвецца з прыгону,
бы адамкне абсяг...
— Дагнаць! — гучыць загад.—
І — да мяне! Ў пакоі.
Не тыя гэта коні,
каб не вярнуць назад!
Пся крэў! Я навучу...

Бізун згінае плечы.
Жанкі малітвы шэпчуць
услед уцекачу.

Кахаў... А то б узяў
на гаспадарку грошы!
Не першы — не апошні.
Па бабіных слязах
дык век бы не згадаў
ні ўцехі, ні спакою...
Загоніць марна коней:
зямля наўкруг — адна.
І пан... Ён пан і ёсць.
Няма на іх паморку!
Куды ад жыткі горкай
схаваеш маладосць?
Кахаў... А панскі гнеў
аддасць загад: засекчы...

Жанкі малітвы шэпчуць,
мінаючы мяне.

*

— Савет вам ды любоў?
Пся крэў! Адроддзе быдла,
ты волі хочаш, скрыдлаў?
Глытай, каханку, кроў!
Глытай! Глядзі, як я
вазьму сваё ад дзеўкі...
— Алесь, табе на здзекі
была любоў мая,
не пазірай! Не смей —
дзяўчына ў крыку б'ецца...

Таго ж — самое сэрца! —
ўжо кінулі на снег,
пад бліскі бізуноў,
пад ногі панскіх служак:

сваім каханнем дужы? —
няхай глытае кроў!

*

Здаволіўшы свой пал,
стаміўшы шал, у крэсле,
у кроку ад Алесі
спакойна дрэмле пан.
І дом аціх і двор —
да новага загаду.
Цяжкія ўздыхі саду
тануць у складках штор,
тануць у дыване,
што на сцяне... над ложкам...
Алеся страх сцярожкі
уздыхам абміне:
на дыване, над ёй,
між старажытнай зброі —
клінка лязо стальное...
Заплаціць пан — крывёй! —
за кожную з мінут
на гэтым ложку мукі.
Ды не збаяцца рукі
ўчыніць над крыўдай суд!
Наважыцца — ступіць! —
і будзе так, як будзе.
Мо перакажуць людзі
Алесю...
Рух зрабіць,
адзіны крок ступіць —
і...
Ўпаў клінок, са звонам,—
раптоўна, незнаёма
пачаў гадзіннік біць.

Клінок. Алесін крок...
Пан зразумеў. Затросся.
Збіў долу і за косы,
ўніз тварам, павалок.
— Пся крэў! Жыццё маё
і богу не належыць...
У вежу — ў нішу вежы —
замураваць! Жыўём!

За-му-раваць! Загад
выконваецца спраўна.
Хто запярэчыць пану —
жыццю не будзе рад.
Не, лепш адолець жах
і ўсё зрабіць пакорна...

А вежа — стала чорнай
з чырвонай
на вачах.

*

Каменны, вечны сховў...
На снезе успаміну
зноў гронкамі каліны
гарыць, не гасне кроў.
Жыцця, любові след?
Дзве гронкі — як два сэрцы.
Алесь! — і захлынецца —
Алеся! — смуткам свет.
У кожным з двух імён —
шчымлівы водгук песні.

Ніколі не ўваскрэсне
любоў тых юных дзён?

Ніколі? І ні ў кім?
А хто ж гукаў: «Але-еся!»?
Каму вось гэту песню
пакінулі вякі?

— Ты, зямля-зямліца,
дай вады напіцца.
Тады перастану
па любай журыцца,
тады пазабуду,
як у зямлі буду...

# БЕЛАЯ ЛІТАРА

*Маналог Сымона Буднага*

Між намі і дзядамі-крывічамі
абшар у добрых тысячу гадоў
зарос не лесам, а цяжкім маўчаннем:
ні шляху ў ім не знойдзеш, ні слядоў.

Хоць не! На след душа трапляе зрэдку:
ад'езд Міколы з Гусава, пясок
з гадзінніка Скарыны, ружа-кветка,
затканая ў дзявочы паясок,
клады, што разбрыліся курганамі,
меч Усяслава, Ефрасінні твар...

Гісторыя, няўведаная намі,
чакае дзень, той, што ўнясе ліхтар,
які асвеціць схоў яе, ці сховы,
і вырве з цемры страчаны ўжо шлях.
Ён прыйдзе, гэты дзень. Услед за словам,
што пераможа недавер і страх,
што пераможа ўласнае бяссілле
перад магутным поступам жыцця.

І то сказаць: хіба аднойчы крылле
ламалі нашым марам, а ляцяць!
І то сказаць: хіба аднойчы мову
тапталі ў гразь, у цемрадзь,
а жыве —
спрадвечным, спадчынным,
народным словам,
насуперак прыгону і царкве.
Так, і царкве!

Хоць у яе скляпеннях
і мрояў пахавана шмат і слоў,
ды зноў вяртаюць ім жыццё сумненні
у неаспрэчнасці старых высноў,
у непахіснасці старое веры.
Старая вера... Мука аднаго!
Бог — чалавек, распяты на паперы
усіх ілжэвучэнняў пра яго.
Бог — чалавек! І чалавек, вялікі
сваёй вялікай верою ў людзей:
не за грахі, памылкі ці пралікі,
ён смерць прыняў за лепшую з надзей —
надзею вечна не пазбыцца болю
за люд, за ўсіх, каго не палюбіць...

Не святасць гэта —
мужнасць быць сабою,
такім, якім імкнешся, прагнеш быць.

І я імкнуся, прагну быць карысным
народу, і навуцы, і жыццю,
якое ў чалавечым, вечным, існым,
і слова праўды — роўна адкрыццю.
Набранае з акругла-гострых літар,
на чорным полі — белых, трапяткіх,
яно аспрэчыць, збэсціць не малітвы,
а тых, хто скрозь хаваецца за іх.

Калі было, што шлях стаяў на месцы?
Што сонца змрок ліло, а не святло?
Што ісціну прыносілі па трэсцы
да вогнішча, каб полымя гуло
пад тым катлом, дзе вечнасць выкіпала?
Што ісціна — згарала ў тым кастры?
Калі было, што стогны, быццам палі,

ўбівалі ў багну хіжасці майстры?
Alea jacta est! [1] Мной зроблен выбар.
Якую міласць я ні заслужу —
жывы ў жывых! — а не ўвянчаю німбам
тых, хто зманулі не адну душу.

Душа — ў агні? Свабода — на каленях?
Улада — затыкаць усім раты?
Святая справа — пакараць сумненнем,
як не кастром? Давер і зман — браты?
Не, не, панове!
Ёсць такія словы,
якія выкрываюць, нішчаць зман,
якія не атруціць ваш дурман,
і ваш і ўсіх «намеснікаў Хрыстовых».
І гэтым словам — жыць.
У кнігах нашых.
У душах нашых, чыстых ад хлусні.
Ні нас, ні будучыню не застрашыць
малюнкамі ўсясветнае разні.
Нашчадкі будуць з намі, а не з вамі.

Святая мука... Мука аднаго!
Быць чалавекам — цяжкае прызванне,
не ўсім, не кожнаму ўтрымаць яго.
Ды кожнаму — усім! — не адцурацца
надзеі, хай найменшае з надзей,
што праца, што цярплівасць іх і праца
наблізяць гэты дзень,
наблізяць дзень...

Не, не, панове! Я — не вашай веры.
Я веру ў чалавека, ў яго лёс.
І распішуся ў тым не на паперы,

[1] Жэрабя кінута! *(лац.)*

а на халодным сураўі нябёс.
Хай хоць крыху раз'ясніцца над векам!
На чорным полі — белае вязьмо
акругла-гострых літар...
Чалавек я,
і ганаруся тым, што быў ім, змог,
і — непадсудны ні для кога. Будны.
Хай прозвішча пацвердзіць сілу слоў,
бо гэтым словам — жыць!
Я — імі буду
жывы для іншых, будучых часоў.

## ЖЫВАЯ РАКА

Стары выток ракі... Выток жыцця...
Іх не шукаюць. Іх шукаць не трэба.
Няма ў душы — нідзе не знойдзеш неба,
якім назад гады твае ляцяць.
Назад. У памяць. На падворкі продкаў.
Не да сталоў, аздобленых разьбой,
да кос, навостраных перад касьбой
нядоляю ды ночкаю кароткай.
Тым косам не спяваць у каласах
высокіх траў, што коні нашы топчуць.
Пакуль узыдзе сонца, выесць вочы
гарачая крывавая раса.
Пакуль узыдзе сонца, паўрастаюць
у жвір, у змрок дубовыя крыжы,
забудуцца імёны тых, хто жыў
і сніў зямлю, ржаны яе акраец.
Забудуцца цяжкія тыя сны,
гулянкаю абернуцца памінкі...

Не, не, раку напоіць ручаінка,
ручай — крыніца ў гушчары лясным!

*

Адна сляза скацілася
на жвір і не ўзышла —
заззяла, забруілася
струменьчыкам святла.
Другая ўпала — срэбрана
струменьчык зазвінеў,
запеў, і бераг вербамі
парос вакол мяне.

Калі ж паспела трэцяя —
працягі загулі,
вякоў сівыя меціны
вяртаючы зямлі.

Дзе лес быў тройчы ссечаны
на труны ды крыжы,
на голлі дуба свечкамі
паўнеба зор дрыжыць.
Дзе шлях быў тройчы згублены
між сненняў і вятроў,
вясна сурму прыгубіла —
склікае дудароў:
— Рабіце дудкі новыя,
спяваць вучыце іх —
хай з гукаў іх высноўвае
душа шчаслівы міг!
Шчаслівы той, адзінаю
для кожнага і ўсіх,
спрадвечнай прарадзімаю,—
настане гэты міг!
Настане. Шлях адлічвае
не вёрсты, сны мае...

Вясна?
Вада крынічная
струменіцца-пяе.
Струменіцца — у памяці,
між зор і аблачын,
між вейкаў, што зліпаюцца,
не верачы начы.
Не ноч, а спеў той скоўвае,
што ў ноч, у змрок вядзе...
Вясна?
Лісцё дубовае ржавее на вадзе.



Час нематы... Прасцягі — загулі.
Змрок непраглядны...
Далячынь — не знікла.
Ракою стаць імкнецца ручаінка:
крынічыць жа — з вялікае зямлі!
Не крача воран, не рагоча драч,
не коцяць перуны сваё каменне,
каб заваліць, каб задушыць карэнне
сівога дуба — і пачуць мой плач.
Не крача воран. Цёмна — ад арлоў,
што, адшукаўшы чыстую крыніцу,
зляцеліся — той чысціні напіцца,
здаволіць смагу здвоеных галоў.

Паганскі сімвал сілы і бяды —
дзве галавы на кіпцюрах магутных...
Што ж стыне ад узмахаў крыл нячутных
сцяжына пацямнелае вады?
Што ж уціскаюцца глыбей у жвір
адбіткі неба і цяжкога голля?
Далей? Праз колькі вёрст?
Пазней? Ніколі?
Глыбокі вір... Яшчэ глыбейшы вір...
Рачулка азіраецца, крадком
прыгадваючы смелыя памкненні
пачаць з адной слязы зямной,
з цярпення
свой бег — і лёс! —
і, ўрэшце, стаць ракой.
Не крача воран, што прыйшла бяда.
А дуб урос у хмары, ў вецер голлем —
гайдае лісце між карэнняў голых
свінцовая, халодная вада...



— Каб табе, рэчачка,
                                    круты берагі —
не так бы вадзіцай разлівалася,
не так бы рыбачка разбівалася...

Душа, што плача,— родная:
я чую боль спярша;
вада, што п'ю,— халодная:
заходзіцца душа.
І хвалі вышай берага
ніколі не расці,
і песні вышай белага
туману не плысці.

Гукнуць бы ветру буйнаму! —
ды сон яго скаваў,
гукнуць бы небу чуйнаму! —
туман яго схаваў.

І хваля, надта нізкая,
падмыла далягляд.
Адно вада паблісквае
там, дзе ўпадзе пагляд.

Вада, ўсё саланейшая
ад слёз — ад слоў і слёз!
І словы й слёзы — першыя
з тых, што складуць мой лёс.

Рачулку клічу рэчкаю,
разводжу берагі,
ганю чаўнок са свечкаю
наперадзе тугі.

Туга тугой, да раніцы —
нам напаіць бары...
Паўсюдна разгараюцца
паўстанскія кастры.

Хай кроў залье іх,
стогнамі
засыплюць, як зямлёй! —
гарэць у словах вогненных
ім гэтаю крывёй.

Растуць кастры паўстанскія,
святлее небакрай —
не захлынецца раскаю
мая Струмень-рака...

— Каб табе, рэчачка, круты берагі —
не так бы вадзіцай разлівалася,
не так бы рыбачка разбівалася!



Не крача воран, што прыйшла бяда,
а ўсцяж рачулкі — не млыны, магілы,
а ў песні зноў паломаныя крылы:
ледзь узляціць — прыцягвае вада.
Глыне самой вады — спрабуе збіць
цяжкія ковы з шыі лебядзінай,
зноў узлятае, каб згадаць радзіму —
той дуб, што пахіснуўся, а стаіць,
крыніцу і слязу, з якой яна
свой чысты звон зачэрпнула калісьці...

Лісты з гадоў мінулых —
лісці, лісці
плывуць паўзбоч, і ліку ім няма.

Адзін падымеш —
слоў не разбярэш,
другі кранеш —
імгненна распаўзецца...
Каб вецер! Каб усчаўся буйны вецер!
Ды на зямлі — зашмат крывавых меж.
Рванецца вецер — кроўю, не іржой,
запырскае падворкі і гасцінцы:
як не самому аб мяжу разбіцца —
разбіць надзеі тых,
хто ўслед пайшоў.
Ішоў. Ідзе. Бо ранак пагукаў.
Бо ранак — там,
дзе ў промнях ноч канае...
І плача песня, што Струмень-рака
сябе, ракою стаўшы, не пазнае.

## МЁРТВЫ ГРУД

Курган, курганне... Ў нашым краі
іх многа, непамерна многа:
дасюль паданні іх збіраем
па ўсіх сцяжынах і дарогах.
Што ні курган — то таямніца,
сваё паданне... Як вядзецца,
адно ахоўвае капліца
з пакошаным сляпым акенцам.
Другою — крыж, цяжкі, каменны,
нахілены насустрач ветру,
насустрач часу, што нязменна
цячэ паўз гэты крыж у Лету.
А то — стаіць не дуб, дубішча
у два, у тры вякі ў абдойме:
у голлі зорны вецер свішча,
карэнне цягнецца ў прадонне.
Павее холадам здалёку,
спалохана заб'ецца сэрца.
Міжволі сцішваюцца крокі,
міжволі думаеш аб смерці,
аб вечнасці, што смерці служыць,
аб таямнічасці былога...
І доўга гэта думка кружыць,
і доўга горбіцца дарога.
І доўга згадваюцца ўздыхі
цяжкога голля — ветру ў голлі,
грай варання і светлы, ціхі,
дажджом размыты смутак поля...

— Ішла поле і другое,
На трэцяе ўзыходзіла,
Да й прылегла к зямелечцы,

Да й прылегла, паслухала:
Ці не шуміць дубровачка?
Ці не стогне дарожачка?

Спявае хтосьці? Не, нікога.
А песня жаліцца дарозе,
і паварочвае дарога,
насуперак маёй трывозе,
назад, у памяць, у былое —
я змушана ісці за ёю!

*

Іду. І поле. І другое.
І трэцяе... Усё здаецца:
вось-вось, за крок перада мною,
дарога раптам абарвецца.
І жвірам хлыне ўніз па кручы,
ракою стаўшы неўтаймоўнай.
Зраблю той крок —
і крык балючы
хісне на хвалі хуткі човен.
Ступаю і... стаю над кручай,
на ўзлобку берага крутога,
а знізу, з цемры, крык балюча
выломваецца імем бога.

Адкуль тут бог? Людзей — нікога.
Я ж прыкавана да ўспаміна.
Я не магу вярнуць дарогу.
І не магу. І не павінна.
Ішла і поле, і другое,
і трэцяе — услед за песняй,
што абярнулася ракою,
падпёршы кручай паднябессе.

Людзей — нікога!

— Што, дачушка?

Мяне згадала, маладую?
І паляцела б — ды не птушка! —
за чоўнам тым... Нябось шкадуеш?

Глухі, хрыпаты голас раптам
вяртае памяць: бераг, камень,
на камені, ракой заклятым,
старая ўсохлымі рукамі
перабірае жмук калоссяў,
альбо пустых, альбо пагорклых,
і стомлена (так мне здалося)
прыглядвае за адвячоркам.

— Крычалі ўнізе... Звалі бога! —
за мною рэха паўтарае.
— А ты сядай. Расказ мой доўгі.
Ты ж па яго прыйшла? — старая,
хоць адкажы ёй — не пачуе,
чакае,

згорбленая скрухай.—

Мне паміраць пара. Памру я.
Вось раскажу... А ты паслухай.

*

Тут, над ракой, лясы калісьці
сабе асілкаў гадавалі.
Яшчэ ў калысцы — з дрэваў лісці
ад іх дыхання ападалі,
а вырасталі — дол хістаўся,
калі ішоў які з дубінай.
І самы люты звер хаваўся:
хто ім трапляў на вока — гінуў.

І звер, і птах, і люд праезджы.
А больш — красуні гэтых земляў!
Ліхі разбой не ведаў межаў.
На ўцеху брату Ліхадзею
красунь прывозілі нямала —
ад слёз вада ў рацэ ўскіпала —
штодня ракой чаўны ганялі,
штоноч красунь кідалі ў хвалі.
Нядобрым, нелюдскім каханнем
нацешыўшыся з імі, спалі
і зноў плылі на паляванне,
і зноў красунь хавалі хвалі.
Людскою альбо божай карай
прыйшоў той дзень, не скажа песня,
ды Ліхадзей — сустрэўся з Марай,
з князёўнай, што яму прывезлі.
Сустрэўся, каб згубіць князёўну —
крыві дзявочае прыгубіць,
а ўбачыў Мару і раптоўна
адчуў: яго — дзяўчына згубіць.
Ступіў насустрач, адхіснуўся,
узмахам рук прыкрыўшы вочы,
ад грукату ўвесь лес прачнуўся —
гукае, вухкае, рагоча.
У страху збеглася дружына:
гнеў Ліхадзея ўсіх дастане!
А ён... Ламае для дзяўчыны
чаромху цэлымі кустамі.
Схмурнела неба, плачуць хмары
слязьмі загубленых тут душаў.
А ён... Ён асыпае Мару
дарункамі, дажджом жамчужным.
Лес разлягаўся і шалёна
ірваў з цяжкога голля хмары.
А ён... Ён спаў ля ног князёўны,

і ўсмешка слізгала па твары.
Прачнуўся ад таго, што сэрца —
хоць сэрца не было ніколі! —
забілася ў грудзях, і б'ецца,
і напаўняе грудзі болем.
Зірнуў: над ім, за колькі крокаў,
вісела Мара — дождж на вейках,
каса ўкруг шыі, як вяроўка...
Абрала смерць, не Ліхадзея.
Той роў, той па зямлі качаўся,
крышыў дубы, крышыў каменне
і загадаў у хуткім часе —
не дол капаць, рабіць скляпенне.
І насыпаць курган высокі
над тым скляпеннем, над магілай,
каб згледзелі яго здалёку
усе, хто плыў ракой панылай.
І ўстаў курган. І ў ім старанна,
як загадаў ён, разам з Марай
быў Ліхадзей замураваны,
жывы — з забітаю ахвярай.

*

Старая ледзьве прамаўляла:
губляла ніць апавядання,
пасля — дыхання... Сілы мала,
глыток! — каб завяршыць паданне.
— Вось дакажу, а ты даслухай.
Мне паміраць пара. Памру я.
Цяжар трохсотгадовай скрухі
сагнуў, скруціў мяне, старую.
Зірні. Не на мяне, ўздоўж рэчкі.
Адсюль відаць той груд магільны —
тырчыць аплыўшай, мёртвай свечкай...

Лес высах. Род зладзейскі згінуў.
А людзі, каго ноч спаткала
паблізу,
з ночы не выходзяць.
Ты выйшла — я цябе гукала
той песняй, што жыве ў народзе,
што будзе жыць...
Старая змоўкла.
Я абярнулася — нікога.
Нічога! — ні ракі шырокай,
ні каменя... Прасцяг. Дарога.
Над ёй — высока — паднябессе.
І песня! Страчаная песня:
— Ішла поле і другое,
На трэцяе ўзыходзіла.
Да й прылегла к земелечцы,
Да й прылегла, паслухала:
Ці не шуміць дубровачка?
Ці не стогне дарожачка?..

## НОЧ ПАСЛЯ СМЕРЦІ

Ноч пасля смерці, адмененай раптам.
Схоў ад натоўпу. Вялізнае заўтра —
звонку, над шпілем сталічнай турмы.
Жах перажытага. Згадкі — як краты.
Хворыя радасцю словы да брата.
Згадкі. Забытыя гукі сурмы...
Што не дае мне заснуць, хоць прылегчы?
Што перакладвае ноч мне на плечы,
зноў падштурхнуўшы руку да пяра?
Вечную муку душы? Саму вечнасць?
Страх перад ёю, цяпер — недарэчны?
Ноч пасля смерці... Дарунак цара.
Як жа, жыццё падарыў — не манету
з цьмянай пячаткай сваіх эпалетаў,
хай кайданы на жыцці, а — жыццё!
Будзе што ўславіць ліслівому свету:
сіла — ў цара, цар даруе паэту...
Хто ж загадаў:
«Накарміць іх свінцом!»?
Хто закрычаў? Ён крычыць яшчэ...
Плошча
пад барабанны раскацісты пошчак
шыю уцягвае ў чорны натоўп —
чорным натоўпам, усёй яго тоўшчай,
душыць мяне... Я прыціснуты плошчай
да аднаго са слупоў, да слупоў.
Не прыраслі — урастаюць рабрыны
ў дрэва, у цвердзь яго,
ў боль прыпаміну:
дрэвы і я... Мы жылі... Мы былі!
Дзесьці ў мінулым сысціся павінны
іх карані і мая пупавіна,

дзесьці ў зямлі, у палескай зямлі.
Памяць. Дастоева. Песня сялянкі...

Не на падмостках стаю, а на ганку
хаты, якой я ніколі не меў,
не перад плошчай стаю, перад ранкам.
Выбліснуў промень. Лягла саматканка
згадкі — ці песні? — на плечы і мне...

— Адлятае саколічак, адлятае,
пакідае сакаліну, пакідае.
Ой, вярніся, саколічак, ой, вярніся,
не вернешся, саколічак, азірніся.
Я на тваё пэра пер'е нагляджуся
і табою, саколічак, нацяшуся...

Песня? Адкуль? Я і слоў не прызнаю...
Быццам не песня, дарога лясная
вёску шукае, забытую мной.
Вёску! Чаму ж гэта плошча скразная
душыць мяне, да слупа прыціскае
мёртвай, умерзлай у сцюжу спіной?
Рушыцца неба. Пад трэск барабанны
крыж абмінае нас — нецалаваны,
ён у памерах расце і расце,
ён не ўмяшчаецца ў позірк, у ранак —
рушыцца ранак... Б'юць барабаны?
Гук не праб'е Петрапаўлаўскіх сцен!
Гэта ў грудзях маіх роспачна б'ецца
сэрца — жыццё, што адхукала ў сэрцы
колькі шчаслівых бяссоннем хвілін.
Першая, дзіўная ноч пасля смерці!
Дзесьці над шпілем турмы маёй — вецер.
Вечнасць! І — ёй мне служыць па зямлі.
Ёй, над якою цароў не бывае.

Ёй, для якой мая мара — жывая:
дзень, або год, або век — выбірай!

Толькі б пяро не забралі!
Не знаю,
хто мне пра лёс мой, пра край мой спявае,
я не прымаю ні лёс свой, ні край.
Лёс — прыкаваны да ўсмешкі царовай?
Да барабана, што глушыць не словы —
думкі, балючыя думкі мае?
Край, што сыноў сваіх гоніць у ковах
шляхам пакуты ў таежную прорву
(добра, што скрозь вальнадумцаў стае)?
Не! Я парушу, парву тыя ніты
паміж душой і юнацтвам, забітым
там, у натоўпу ўсяго на вачах:
мара абернецца болем — адкрыта
словы праклёну, а не малітвы
вышапча, высніць душа па начах.

Ноч дагарае, гарыць у акенцы,
там, дзе са шпілю турмы маёй вецер
зоркі змятае на плошчу, на снег.
Вось бы гукнуць яму! Ці адгукнецца?
Не, толькі рэха ледзь чутна шкрабецца
дзесьці ў кутку,
там, дзе тоіцца смех.
Смех, сатанінскі няйначай,— бо зноўку,
зноўку ашчэрвае плошча вінтоўкі
з джаламі гострых сталёвых штыкоў.
Смерць — у адным з іх. І — непадалёку.
Крок... Нават меней... Самога паўкроку!
Стрэл — і ўпадзеш на падмосткі вякоў.
Што ж не страляюць? Чакаюць загаду?
Той, папярэдні загад — несапраўдны?

Ўздых мой — ці крык — у натоўп перацёк,
сцяўся, адхлынуў натоўп ад пагляду,
быццам не рады, ніхто з іх не рады
промню, што выбліснуў з хмары... Жыццё!
О, яно знойдзе, згадае замовы,
тыя, што мне не дадуць і ў аковах
плакаць над кожнаю болькай душы.
Хтосьці спявае... Нанізвае словы
на прыпамін, незнаёма-вясновы,
хтосьці ўгаворвае ноч патушыць:

— Ой, вярніся, саколічак, ой, вярніся,
не вернешся, саколічак, азірніся.
Я на тваё шэра пер'е нагляджуся
і табою, саколічак, нацяшуся!

Мова забытая... Песня старая...
Ноч дагарае. І я не збіраю
словы-вугольчыкі, згадкі яе:
хай прапякуць гэту цвердзь небакраю
не нада мной, дык над выстылым краем —
шлях яму верне надзеі мае.
Словамі, згадкамі, кнігамі верне.
Боль гэты болем сусветным аберне —
кожны ў ім знойдзе сваё, ад свайго.
Кожны?
Не ўсё не заўсёды і зерне
ўзыдзе, а словы... Іх гасяць сумненні,
перш чым успыхвае ў душах агонь.

Гасяць.
І ўсё-ткі, яны не згараюць,
кожпае — быццам гарачы акраец
праўды. Цяжкой. Чалавечай. Маёй!

Толькі б пяро не забралі! А памяць
вышапча словы, што лёс мой апаляць
і захлынуцца агнём, як крывёй.
Зараз жа веру жыццё мне вяртае.
Не выціраючы слёз, я гартаю
згадкі свае над агаркам начы.
Плачу. Смяюся. Надзеі гукаю.
Хтосьці спявае... Нібыта пытае:
хто ты, саколік? Адкуль ты і чый?

Хто? Дастаеўскі. Дастоеўскі родам.
Не адцураўся зямлі і народа
род мой, а сцежку дамоў не знайшоў.
Дом мой — астрог, недзе ў краі халодным,
род — чалавецтва... Я знаю. Я згодны!
Ноч дагарае. Мой час — надышоў.

## ГОН

Ловы ўдачы... Бязлітасны гон.
Бег аленя у зрэнцы прыцэла —
бег ад цела, асобна ад цела,
спадзяванню свайму наўздагон.
То ўзлятае, ўзмывае абсяг
разам з сонцам над вершаллем хвояў,
то, абрынуты стрэлам, сцяною
наступае на ўздыблены шлях.
Шлях кідаецца ўбок, ад яго —
за аленем — аленем!
Здаецца,
гукі рога разгойдваюць сэрца:
гон не скончаны, доўжыцца гон.
Хто — каго? Узлятае абсяг:
кожны промень — страла залатая.
Абрываецца, зноў узлятае:
кожны міг — павялічаны страх.

Ловы ўдачы... Яна не міне
тых, хто гоніць — загоніць аленя!
Я ўжо чую яго набліжэнне
праз гады — праз вякі — да мяне.
Я ўжо чую, што з-пад капытоў
асыпаюцца грудкі наўколля,
што дыханне, ўскіпаючы ў горле,
вырываецца пенай, як кроў.
Доўгі-доўгі скачок... І калі
абрываецца ёп, абарвецца —
яшчэ падае ў гул маё сэрца,
яшчэ б'ецца алень на зямлі,
ва ўспаміне...
І хто б шкадаваў

гэты бег, нанізаны на стрэлы,
ці здабычу — дрыготкае цела,
пад якім пачарнела трава?
Свет не гэткае помніць!
Ракой —
кроў сцякала па скроні стагоддзя...

Сонца доўга, балюча заходзіць
за ўспамін, адхінуты рукой,
а ўзыходзіць — ад промняў яго,
ад святла, ад пагоні ўцякаю
я, жанчына,— праз пушчу, вякамі.
Гон не скончаны. Доўжыцца гон.

*

Ловы ўдачы... Якая цана
хараства, паднявольнага долі?
Ўсмешка люстра? Палацы няволі?
Чорнай хвалі цяжкая сцяна,
што абрушыць увесь свой цяжар
на мяне, каб акрыць маё цела?

Поле памяці — полем збуцвелым,
лес гадоў — непралазны гушчар...
Абдзіраю і позірк і твар,
на кустоўі — ашмоццем — апратка:
даганяе жахлівая згадка
крыкам, стогнамі іншых ахвяр.
Павярнуць? Сутыкнуцца з гайнёй?
Я ўжо чую, як цягнуцца рукі —
мноства рук! — каб хоць штосьці ад мукі,
ад пакутнай любові маёй
уварваць... Ужо з мноства грудзей
вырываецца клік пераможны:
перамога за імі — за кожным!

Абярнуцца? Ўсміхнуцца бядзе?
Мне, жанчыне, загнанай у ноч,
у знямогу,— забыць сваё сэрца,
стаць здабычай натоўпу і смерці...
Каб слязінка са змучаных воч!
Каб слязінка!
І хто б шкадаваў
маладосць ці яе абяцанні,
калі доўжыцца гон? Да світання
пачарнее, пасохне трава.
Абгарыць, пачарнее зямля
і не прыме збалелае цела...

Абярнуцца, ўсміхнуцца хацела —
не паспела: упаў далягляд.
За паўкрока упаў, на вачах
рассыпаецца іскрамі зорак,
што мігцяць і згасаюць, каб морак
захінуў мой аголены жах.

Захінуў. Адчуваю цяжар
не гадоў — прамінулых стагоддзяў...
Сонца доўга, балюча ўзыходзіць
над вуголлем патрушчаных хмар.
А ўзыходзіць — яму наўздагон
конь імчыць, на ім — коннік са сцягам,
раць варожая — следам, прасцягам...
Гон не скончаны. Доўжыцца гон!

*

Ловы ўдачы... Яе берагі
знае шлях, што бяжыць ад пагоні:
куляй скошаны, падае коннік —

у сядле яго мчыцца другі.
Спатыкаецца конь — і каня
замяняе другім сцяганосец:
не адліта шчэ куля, што скосіць
гэты сцяг над прастораю дня.
Многа ворагаў. Цэлая раць
зноў сцінае, сціскае наўколле...
Ды наперадзе — коннікам — воля,
волю ў вольнага не адабраць!
Як і не напужаць небыццём —
не згадаўшы пра неба і бога,
адабраўшы каня і дарогу,
адабраўшы імя і жыццё.

Смерць — не выкуп, не плата за шлях,
за парыў, за прарыў у бясконцасць.
Гэта міг, калі падае сонца
і ўзлятае, як сцяг,
за спіной у таго, хто імчыць
у сядле — ад шалёнай пагоні,
ад варожых узмыленых коней,
нацягнуўшы іх шлях, быццам ніць.
Быццам мост, што звядзе берагі
новых дзён і былых, над прадоннем...

Змогай скошаны, падае коннік —
у сядле яго мчыцца другі!
Спатыкаецца конь — і каня
сцяганосец другім замяняе!
Далягляду сцяна залатая
адступае прад наступам дня.
Дзень... Сам час раздзімае агонь
сонца — сцягу — спрадвечнае мары!
Шлях імчыць, рассякаючы хмары.
Гон не скончаны. Доўжыцца гон.



Ловы ўдачы. Вялікай. Любой!
Спробы вырвацца! — ўбок, ці наперад,
ці назад...
Час выцягвае нерат —
нас у нераце! — з хвалі сваёй.
І не ўзняцца над ёй, не пасмець.
Я не вольная вырвацца з масы —
я скавана і з рухам і з часам —
кожны крок мой прыспешвае смерць.
Гэта нельга — і трэба прыняць
як належнае...
Шлях ужо страчан,
але ж вунь яны, коні удачы,
за паўкрока аброццю звіняць.
Трэба толькі свой міг пераняць
і, зрабіўшы два-тры намаганні,
ад яго адштурхнуцца нагамі
і — ўзляцець у сядло, на каня.
На каня, які вынесе крык,
клік пагоні — за межы прасцягу.
Вось ён, міг мой!
І конь мой! І сцяг мой!

Шлях ледзь-ледзь засвяціўся і знік.
І растаў у смузе — за смугой! —
пагукаўшы каня за сабою:
конь рвануўся з тугі маёй, з болю...

Гон не скончаны. Доўжыцца гон.

## НАРАДЖЭННЕ СЦЯГА

Гады, стагоддзі... Іх магуты-дрэвы
і курганамі ўздыблены прасцяг,
іх чорныя, крывавыя залевы
і ўсходы чорных макаў на касцях,
іх бізуноў чырвоныя маланкі
і крэматорыяў чырвоны дым...

Як лёгка ўсё забыць насупраць ранку
у свеце, і сягоння маладым!
Як страшна ўсё забыць! — аслепнуць душы,
і цень мінулага акрые нас,
каб плачам мацярок, дзяцей і птушак
зноў, і навекі, захлынуўся час...
Яшчэ ў нас верыць шлях, яшчэ шукае
той утравелы ланцужок слядоў,
што з вечнасці самое выцякае.
Яшчэ чакае шлях. Яшчэ гатоў
ісці, імчаць, імчацца, калі трэба,—
злучаючы, яднаючы людзей
адным на ўсіх, для ўсіх агульным небам.
І тчэцца, тчэцца, тчэцца сцяг надзей!

*

Надзеі на ўдачу —
на гострую дзіду,
што звера дагоніць,
што высачыць крыўду
і ўдачай аберне
імпэт паляўнічы...
Надзеі на сілу,
што з сэрца крынічыць!

Пакуль не саткана
бязмежжа прасцягу,
пакуль усяўладныя
голад і смага
апраўдваюць
жорсткі закон выжывання
усім, што між намі
і продкамі ўстане,—
не вырастуць мары,
не ўздымуцца словы
над змрокам пячорным,
над чадам кастровым.

Не ўздымуцца! Кросны ж
запелі — спяваюць!
Пад ціхі іх спеў
прачынаецца памяць
і памяццю — з памяццю! —
дні выжываюць...

Нясмела, няўпэўнена
кросны спяваюць,
а ўсё-такі змрок
адступае, радзее,
успыхвае, свецячы
новай надзеі.

*

Надзеі на сцены,
на княжыя вежы,
якія нядрэмна
вартуюць бязмежжа,
шляхі ў тым бязмежжы,
паселішчы, гоні...

Надзеі на лустачку поля
ў прыгоне!

Пакуль не сатканы
штандары нязгоды,
пакуль не адчуў сябе
род мой народам,
што з годнасцю пpыме
нядолю як долю,
і выстаіць, і не забудзе
пра волю,—
не вырастуць мары,
не ўздымуцца словы
над мулкай жарствою
шляхоў палыновых.

Не ўздымуцца... Кросны
спяваюць натужна —
прыгнечаны, бедны,
люд мусіць быць мужным.
Люд мусіць пакутаваць,
верыць, змагацца
за хлеб свой, за сілу,
што выпіла праца.

Якія там сцэны!
Труха для музеяў...
Штандары нязгоды —
штандары надзеі.

*

Надзеі на зброю,
на ўзброены гнеў свой,
які б да наступнікаў

песня данесла —
журботная песня
адзінства і здрады...
Надзеі на бітвы
паўстанскіх атрадаў!

Пакуль не сатканы
нябёсы для зоркі,
што сцягне праменнем
крывавыя золкі
і ў чырвані іх
афарбуе дарогу
ад бога й пакоры яму
да астрогаў,—
не вырастуць мары,
не ўздымуцца словы
над горыччу
ўсіх паражэнняў часовых.

Не ўздымуцца! Іскру
раздзьмухвае ў веру
павеў ледзянога
сібірскага ветру —
і ляскаюць дзверы
аглухлых палацаў,
і век нараджаецца
з думкай: змагацца!
Спатрэбіцца зброя!
Хай вецер мацнее,
хай вера становіцца
сцягам надзеі!

*

Надзеі на праўду,
адзіную праўду,

жывою
распятаю на барыкадах,
жывою
залітаю кроўю рабочых,
жывою
ўтаптанаю ў крошыва ночы
і з крошыва, з праху
паднятаю горда
над векам, над светам,
што прагне свабоды.
Паднятаю верай жывых,
іх адвагай...
Палотнішча неба —
палотнішчам сцяга.

На ім, на палотнішчы
полымным — зорка,
пад зоркай — пячатка
працоўнага золка,
што стане галоўнай
пячаткай эпохі
для ўсіх, колькі будзе,
гісторыкаў строгіх,
для ўсіх, колькі будзе,
законаў братэрства.

Надзея на шчасце...
Іграйце, аркестры!
Іграйце мінулае,
шлях яго доўгі,
іграйце нязбытае
ўпарта, да змогі,
да новае сілы,
што зрушыць прасцягі!

Надзея на шчасце —
палотнішчам сцяга.

Гады... Стагоддзі... Касмадромы мары...
Гарачы пошум сцяга ў вышыні...
Трывога за Зямлю — цяжкая хмара
трывогі над абшарам цішыні...
Яна расце, пускаючы карэнне
у будучае: быць яму? Не быць?
Адбыцца? Не адбыцца? Стаўшы ценем,
забыць Зямлю? Так лёгка ўсё забыць...

Не, не! Ўвянчана кожная падзея
цяжкою дзідай часу, да якой
прывязана палотнішча надзеі —
і я яго кранаюся рукой.
І згадваю шляхі, і стрэлы гневу,
і курганамі ўздыблены прасцяг,
і чорныя, свінцовыя залевы,
і ўсходы чорных макаў на касцях,
і страху акрываўленую дзягу,
і крэматорыяў чырвоны дым,
і — праз усё! — гарачы пошум сцяга,
народжанага векам маладым.

Нічога не забыць. Адно, што трэба,
каб шлях з'яднаў людзей, і меў працяг,
і нёс — данёс! — да будучыні неба,
якое асвяціў чырвоны сцяг.
Адно, што трэба!

## ХЛЕБ

Цішу, аграмадную, як стэп,
як гарачы небакрай над стэпам,
на кавалкі,
так як рэжуць хлеб,
наразае незнаёма-слепа
шлях — бальшак, няроўны па краях,
там, дзе затупіўся аб сінечу.
І язычніцкі якійсьці страх
працінае, угінае плечы,
замыкае ў ковы нематы.
Нематы, што, як нідзе, дарэчы:
з гэтакай прасторао на «ты»
не пяройдзеш з першае сустрэчы.
Паспрабуй не пакланіся ёй,
як яна табе,— ніжэй пагляду! —
і высокай сонечнай сцяной
будзеш адгароджаны ад праўды.
Ціша, аграмадная, як стэп,
здасца ўяўнай, выдуманай стэпам,
каб прарос, закаласіўся хлеб,
набрыняў святлом яго нясцерпным.
Каб імчаў,
імчаўся шлях — наўкруг —
праз сінечу ў новую сінечу...
Шлях — імчыць.
І ўжо не страх, а рух
прыгінае, угінае плечы.
Рух наперад — рух у новы дзень,
новы — новай, светлай далячынню,
новай явай...
Выгарае цень,
даўжынёй у цэлы дзень Айчыны,

даўжынёй у цэлы век хады
з памяці, з нядаўняга былога,
дзе — наўсцяж —
клады, клады, клады!
Рух — наперад.
Згадваецца многа.



Згадваецца песня, што прынёс
ссыльны прадзед
з гэтых стэпаў вольных:
— Не напоіш лёс і рэчкай слёз,
як няма глытка вады жывое,
як няма сцяжыны, што вяла б,
прывяла на твой парог прастору,
як няма зямлі, што прыняла б,
нахавала спадчыннае гора...

Песня адгучала, а баліць,
гэтак, як балеў бы дрэву корань,
перасмяглы, высахлы на ніць
і жывы... Якая ні апора,
ды апора! — адсячы яго,
адсячы другі карэньчык, трэці,
і засохне голле да снягоў,
і лясіну зваліць лёгка вецер.
Песня... Радаводная з яе
пачалася! — як ні наракаем,
а яна дагэтуль аддае
сілу сваю полю і ратаю.
А яна жыве, каб мы — жылі
працай, распачатай напрадвесні,
хлебам, які ўродзіць на зямлі,
памяццю, якую вернем песні.

Шлях імкне за часам і назад
рэдка азірнецца без патрэбы.
Згадваецца ж... Згадваецца шмат
над акрайцам спадчыннага хлеба.



Згадваюцца раны, што прывёз
дзед мой з гэтых стэпаў,
з грамадзянскай:
тры рубцы, што ад пляча, наўскос,
грудзі рассяклі — з варожай ласкі.
Кожны раз, як плакала трава,
чуючы касу ці навальніцу,
дзед іх згадваў, шаблю даставаў,
дзьмуў на сталь,
каб бляску падзівіцца,
і хмурнеў, і гаварыў пра стэп
як пра поле, стоптанае поле:
разараць яго — прыйшоў бы хлеб...
З веку ў век не мелі хлеба ўволю!
Дзед хмурнеў, хаваў свой боль стары
ў скрыню, пад замок: рубцы рубцамі —
з той адчайна-юнае пары
ныла ў ім рассечаная памяць.
Два кавалкі, быццам два жыцці,
не зрасталіся... Яго палетак,
двор і дом, што ў свет не адпусціў,—
і бязмежны стэп на ўзмежку лета.
Не пад сілу столькі разараць,
мо каб да каня прыпрэгчы вецер...
Нылі раны. Ў небе спеў агонь.
Зноў было трывожна ў цэлым свеце.



Згадваецца не агонь — паток
вогненна-расплаўленага неба,
што не верхам — нізам —
шляхам! — цёк,
апярэджваючы шлях ганебны
з захаду на ўсход,
паўз плач жанок,
паўз жыты, палеглыя пад колы,
паўз гады, якія мне здалёк
бачны:
комін, комін, комін голы!
І між іх — як астраўкі — бары,
дзе прытулак, схоў шукала помста,
дзе, прыпаўшы да зялёных грыў
дрэў,
кідалася пад кулі пространь,
каб прарвацца, вырвацца з агню,
з новае блакады, з жаху, з плачу,—
бег, страляў і, ўпаўшы ў цішыню,
бацька мой сцякаў крывёй гарачай.
І, заціснуўшы рукой, травой,
рану, прыступ жудаснага болю,
цішыню, набраклую крывёй,
на сабе валок, выцягваў з бою.
Быццам ведаў, верыў: дапаўзе!
і падымецца! і даваюе!

Шлях той патанае у смузе,
у гадах... А нітачку жывую
ледзь крану — і выступае кроў
з прыпаміну, з ран зямлі самое,
і ўзыходзіць цішыня бароў
вогненным світаннем нада мною.

Шлях вядзе — не выведзе з бяды,
з памяці, з балючага былога,
дзе — наўсцяж —
клады, клады, клады...
Шлях — наперад!
Згадваецца многа.



Згадваецца чорны, як зямля,
як зямля, акруглы хлебны бохан,
што сталы па бацьку аздабляў,
дзецям — мне! — ўяўляючыся богам,
богам хаты, нашае сям'і,
іншых сем'яў, на дзяцей багатых...
Згадваюцца слёзы — ручаі! —
дня, што звёў у стэп кудысьці брата.
Дзе быў стэп той, і які ён быў,
і чаму ён цаліною зваўся,
дзень не ведаў — ён сваё зрабіў,
шлях прадоўжыўшы ў наступным часе.
Новым часе, тым, што стрэціў шлях —
і мяне! — прастораю, сінечай.
І язычніцкі якійсьці страх
працінае, угінае плечы.
Ажывае песня, што прынёс
ссыльны прадзед... Дзедаў конь імчыцца
стэпам — з памяці — праз бацькаў лёс...
Бацькаў след залізвае ваўчыца...
І з усіх куткоў зямлі глядзіць
на акруглы чорны хлебны бохан
голад... голад...

Песня — быццам ніць
між душою і галодным богам.

Богам, так гаворыцца...
Ёсць хлеб.
Ёсць зямля, што засяваем зернем.
І чаканне. І бязмежны стэп,
які зернем
доўг стагоддзям
верне.
І жыццё — нябёсаў і надзей,
і бяссмерце —
ў дзецях і ў Айчыне...
Шлях — наперад!
Шлях — у новы дзень,
новы — новай, светлай далячынню.



# МЫ РОДАМ З ВАЙНЫ

*Паэма*

Шлях пакуты... Няўцешныя
згадкі тысяч людзей...
Сэрца дні не прыспешвае —
час жа йдзе. Час ідзе!
І не мае ніводзін з нас
права штосьці забыць:
шлях той, намі не пройдзены,—
як нервовая ніць,
што з былым спалучаецца
мноствам лёсаў і дзён.
Колькі — з ношаю памяці
не дайшлі! Мы — ідзём.
Мы нясём спадзяванні іх,
як свае, як сваё.
Мы шчыруем — і справамі
доўг жыццю аддаём.
Ставім хаты. І помнікі.
Нараджаем дзяцей.
Падключаем прыёмнікі
ад падзей
да надзей...
А трывога не цішыцца —
ні на дзень, ні на міг!
Дзесьці выбух —
і крышыцца
ад асколкаў цяжкіх

неба побач, над дахамі.
Дзесьці стрэл —
                    і рукой
сын, усхліпнуўшы, змахвае
сон жахлівы...
Спакой?
Заспакоенасць?
Лішняе —
вечна згадваць вайну?
Пераджытае іншымі —
не маё?
А чаму
мне — баліць?
Прачынаюся:
здэцца, хтосьці крычыць,
крыкі — жудаснай навіссю
над прасцягам начы.
І бягу — на дзіцячае:
«Ма-ма!» —
                    цемрай скразной.
Сэрца ўсё перайначвае:
ўсё было і са мной.
Ўсё
было
і са мной!

## У ЛЮСТЭРКУ НЕБА

Разбіты шлях.
Забіты крык.
Адна... Адна жывая?
І дзень
кудысьці раптам знік.
Сінеча наплывае,
кусты алешніку —

сцяной,
карчы, як ваўкалакі:
то быццам загавораць з ёй,
упрошваюць не плакаць,
то выпінаюць карані,
як лапы з кіпцюрамі,
не напалохаўшы, ані!
У цемры, ў кожнай яме,
у кожнай ямцы за карчом
хаваецца па страху.
Яна ж ідзе...
Перад дзяўчом
чарнеюць зломы шляху.

Стамілася. Шукае, дзе,
дзе больш зручней прылегчы,
і ўздрыгвае,
бы хто кладзе —
паклаў! —
руку на плечы:
апёк не холад той рукі,
а рух, да плеч прыліплы...
Паблізу,
там, дзе хмызнякі
за шляхам,—
хтосьці ўсхліпваў.

— Ты хто? Ты, як і я, сваіх
згубіла? — запытала.
І — ўбачыла дзяцей,
двух,
з жанчынаю, што спала.
Што спала... Гэта так яна
падумала спачатку:
малыя, пэўна, да цямна

не разбудзілі матку,
а стала цёмна —
сон змарыў
і іх...
Усхліпваў меншы
у сне, з якога камары
пілі свой звон няспешна.
— Я Памяць! —
І зглынула ўздых:
ніхто ж не чуе!
Моўчкі
прылегла побач, ля малых,
скруціўшыся клубочкам.

*

— Та-мала! — захныкаў хлопчык,
а нянька, сама з вяршок,
прачнуцца, падняцца хоча
і валіцца, як мяшок.
— Та-ма-ла...
Памяць няўмела
спрабуе абняць яго,
сагрэць.
Здаецца, заднела:
плыве халоднай смугой
над імі, над шляхам неба.
Адчула голад. І млосць.
Згадала акраец хлеба
пад хусткай,
кранула — ёсць!
І адшчыкнула крышынку,
адну, і яшчэ адну...

У рот — глядзела дзяўчынка,
нячэсаная, са сну.

— Вазьмі! — разламала Памяць
акраец свой напалам.
— Я хлеб твой Мішу... і маме,
калі прачнецца, аддам.
Я ўчора ела...— і вочы
адводзіць убок, убок.
— Вазьмі ад майго. Ты ж хочаш!

Захныкаў Міша. І змоўк,
ледзь толькі сястра ціхутка
гукнула:
— Чаго ізноў?
Зноў хлеба?

Хлеб з'елі хутка.
Цішком. Было не да слоў.
Акрайчык лішні напомніў
пра маці... Яна шчэ спіць?
Ляжыць. У сцятай далоні —
травінкі росная ніць.
Да кос, па адкрытай шыі,
праклалі шлях мурашы.
Яны, мурашы, жывыя,
а маці...
— Мам, не ляжы!
Прачніся! — будзіць Тамара.—
Мы хлеб твой не з'елі. Вось!
І заўтра настала... Ма-ма!

Паўзлі мурашы да кос,
да цёмнай пляміны ў косах.
Гукала дзяўчынка. Брат
за кофту тузаў...
Здалося,
што дзень адступаў назад,

і Памяць шукала сілу —
і словы! — яго спыніць.
— Пайшлі са мной! — папрасіла.—
Суніцы знойдзем! Хай спіць.
Паспіць і ўстане. І з намі...
— Мы з мамай! Мы пойдзем з ёй,—
Тамара за мурашамі
сачыла дрогкай рукой
і, неяк не па-дзіцячы,
балюча моршчыла твар.

Заплакалі.
Толькі плачам
не разбудзілі абшар,
і маці — не разбудзілі...
Замала было іх слёз,
замнога ў ранку прасілі!

Бальшак паперадзе поўз.
Павольна. Нібыта ўгору.
Нібыта валок свой след,
перамагаючы змору,
з былога ў далёкі свет.
І на дзяцей азіраўся
з трывогай: яны — куды?
Ці доўга, па гэткім часе,
да новай якой бяды?

Дайшлі да вёскі,
а вёскі
няма — адны каміны,
ды хмары колеру воску
над імі, як валуны,
ды абгарэлая ціша —
шырокім чорным вянком...

На рукі просіцца Міша.

То лес, то поле вакол.
Прасёлак знайшлі —
нязвыкла
прасёлак горбіцца ўсцяж
пад коламі матацыклаў.
Чужынцы... Гоман не наш!
Страляюць.
Па іх! — па дзецях...

Праехалі. Дым асеў.
Крывёй сцякала дасвецце
ў слядкі
глыбока ў расе...

## НЕЛЮДЗІ

— Дуб-ро-вен-ка...—
па складах,
вачыма чытала Памяць
і чула, як дыхаў страх
ў патыліцу ёй: «Та-ма-ла!»
Бы гэта Міша гукаў
сястрычку, ўпаўшы на стрэлы
(як доўга яго рука
ўзлятала і не ўзляцела!
Якім балючым клубком
скруціўся ўсхліп!).
Але позна:
з травы прарос васільком
застылы Тамарын позірк.
У Памяці ж не было
той сілы,
што ўваскрасіла б

дарогу, дзяцей, святло! —
яна крычала, прасіла
аб'ехаць іх, не страляць,
ды кулі яе не чулі...
(Як доўга слёзы баляць!)

А згадка ўжо тоне ў гуле,
што быццам бы з-пад зямлі,
платы хістаючы, мкнецца.

Дубровенку — апаліў
прапахлы бензінам вецер.
І вось ужо душыць чад
двары яе за платамі,
і вось ужо стрэхі хат —
з чырвонымі грабянямі,
і людзі...
Усіх людзей
у хатах паляць няйначай:
агонь шалёна гудзе,
таму і не чутна плачу.
Таму і не чутна слоў,
што просяць дзяўчынку
збочыць,
знайсці які-небудзь схоў,
не трапіць злыдням на вочы.
Яна ж, адкашляўшы дым,
нібы ў цяжкім утрапенні,
ішла і ішла туды,
дзе мітусіліся цені,
дзе чорна ўсё ад людзей
у чорным...
Любы́ — нібыта
апрануты ў змрочны цепь,
ад неба каскай прыкрыты...

Яна ўжо бачыла іх
раней! уранку! на шляху!
на матацыклах цяжкіх! —
і не адчувала страху.
Адно дрыжэла губа,
прыкушаная балюча,
ды позірк
яснасць губляў,
становячыся калючым.
Яшчэ і яшчэ быў крок...

Упала раней, чым кулі,
пасланыя ў гэты бок,
яе з дарогі спіхнулі б.
Упала.
Прачнуўся боль.
Дзяўчынка паспрабавала
устаць і рукой слабой
прыкрыцца —
сіл было мала.
І ўсё-ткі ўстала.
Пайшла,
намацаўшы шлях паглядам,
па прыску, па сколках шкла,
жыццю ўпершыню не рада.

Дубровенка...
Беразняк
нагадваў лес галавешак,
з пагорка ўніз баразна
крывёй
сцякала ў алешнік.
І ўздоўж,
ля забітых матак —
забітыя немаўляты...

Радзільны дом быў...
Да дня...
Ўкруг — чорна ад гругання.

— Акыш, акыш! Наляцелі,—
хацела падняць пагляд
вышэй,
над зямлёй змярцвелай,—
пагляд спаўзае назад.
Не бачыць нічога болей:
вакол — адно груганнё!
Ступае. Цяжка. Па болю.
Па прыску. Услед за днём.
За днём,
што не дапаможа —
ні згадкі не паднясе...

— Акыш! — і крыкнуць не можа,
у горле крык перасеў.

*

Заплюшчыцца б, не глядзець,
не бачыць! —
яна ж малая,
яна не знае, што смерць
за ёй,
след у след,
ступае.
Не знае...
Слёзы баляць!
А ўкруг — каміны.
Дыміцца
ужо не вёска — зямля! —
узгорак, лазняк, крыніца!

Ледзь-ледзь адкашляла дым.
А ёй яшчэ доўга-доўга
ісці за плачам сваім
разбітай, дымнай дарогай.
Ісці па страшнай вайне,
шукаючы схоў ад смерці,
па крузе,
які й пазней —
праз час! —
будзе нельга сцерці.

*

За Памяццю сочыць вечар:
мо скруціцца ў баразне,
не коўдрай — само цямрэчай
укрыецца і засне?
Мо адпачне хоць трошкі
ад згадак сваіх?
Не, не!
Далей трэба: ад бамбёжкі
і голле не захіне!

Мо там, пад вольхай старою,
дзе пахне горка, да слёз,
апалым лісцем, карою,
схаваецца ад нябёс?
Не, не, парыпвае голле,
бы гойдае чыйсьці труп...

Мо там, дзе жытняе поле
ахоўвае волат-дуб,
валошкі згледзеўшы, Памяць
забудзе пра кроў?
Не, не!

Яны — і жыта падпаляць,
стралялі ж па ім!

Бы ў сне,
кругамі — чырвань цяжкая
калышацца ля вачэй.
Калышацца, не сцякае,
калышацца ўсё ярчэй.

Задзьмі свядомасць,
знямога,
шкадуючы і яе,
дзяўчо,
і яе дарогу!
Ці чуе? Хтосьці пяе...

— Лю-лі, лю-лі, лю-лі
донечку малую!
Соладка ёй спіцца —
і нясуць сініцы
з-за лясоў далёкіх
дзень паўз нашы вокны.

Лю-лі, лю-лі, лю-лі
дзевачку малую!
Дзень тады настане,
як дачушка ўстане
і ў яе далоньцы
засмяецца сонца.

Лю-лі, лю-лі, лю-лі
донечку малую...



Адкуль, чыя калыханка
заснуць не дае?
Здаля
здалося: прымхі світанка...

Сасна.
Спіной да камля
прыперлася маладзіца.
Расхрыстаная.
З малым.
Дзіця падолам спадніцы
спрабуе прыкрыць,
над ім
схіляючыся раз-пораз.
Пяе яму і пяе.
Так гучна, нібыта голас
гучаў за слыхам яе.

Падбегла Памяць,
а тая
не бачыць яе, ніяк.
Спявае.
Ціха гайдае
на зломах рук немаўля,
чый тварык абселі мухі,
чый позірк запляміў гной...

Дзяўчынка войкнула глуха,
жах
кінуўся ўслед за ёй.
А песня не аціхала,
гучала, бы даганяла:
— Лю-лі, лю-лі, лю-лі
донечку малую!

Соладка ёй спіцца —
і нясуць сініцы
з-за лясоў далёкіх
дзень паўз нашы вокны.
Лю-лі, лю-лі...

## ВАСІЛЬ

То бегла Памяць, то йшла...
І з ёй, малой, напужанай,
паўз вёскі, лесам, кружляў
прасёлак —
шлях на Пружаны.
Разбіты шлях...
Груганнё —
на зломах дум, як на голлі...
Праз боль яна йшла — па болю!
Па праху. Услед за днём.
Ішла з бяссільнай пакорай,
бы згледзела нейкі след,
бы чула ўвесь цяжар гора,
абрушанага на свет,
абрушанага на плечы.
Дагнала дзень...
Потым вечар...

*

— Хлопчык, цябе як завуць?
Маўчыць.
— Ты зусім-зусім нямы?
Маўчыць.
— Мог бы галавой хітнуць!
Маўчыць.

— Гэта ўсё яны... яны!
Маўчыць.
І каб іскарка ў яго вачах!
Як патушаны. Як не глядзяць.
Як дзве студні мёртвыя: не страх —
ледзякі яго! — на дне трымцяць.
Як дзве студні мёртвыя...
Ён быў
мёртвы сам! —
ён колькі дзён праспаў
і забыў пра ўсё, пра ўсіх забыў.
Тата, мама...
Ён бы сам прапаў,
каб не цётка! Хутар так гарэў —
полымя не ціхла да начы,
апякаючы галіны дрэў.

— Ты ж умеў, ты ж гаварыў!
Маўчыць.
— Хочаш пагуляць са мной?
Маўчыць.
— У ранейшы дом наш? Хочаш, га?
Я магу аладак напячы —
вунь колькі пяску!

Адна смуга
у вачах — ні іскаркі жывой.
Хіба так бывае?

— Хочаш піць?
Ты кіўні, кіўні мне галавой!
Ты Васіль? Ну, што з табой рабіць?
А хоць маму, маму помніш ты?
Ма-му!

Зварухнуўшыся, пагляд
быццам выплывае з пустаты —
хлопчык адступіў назад, назад...
— Ма-ма!
— Хочаш... хочаш, раскажу,
што яна магла табе сказаць,
што казала ветру і дажджу?
Толькі гэта цяжка расказаць!

— Ма-ма!
Крык
вярнуў на момант згадку...
Мамін голас? Плач яе?
— Дзіцятка!
Як прыйшлі па смертухну маю,
сена я расцягвала за хатай.
Сонца ці ўзышло?
Калі ўстаю —
тут, з-за кратаў,
не відно яго.
Толькі ж вейкі апушчу — агонь!
Не інакш, спалілі нашу хату...
Ты, сынок, не плач па ёй!
Праклятых
як пагоняць — будзе, што было:
хата, веснічкі, стажок за хатай
і бярэзнік...
Сонца ці ўзышло?
Я з табою. Я заўжды з табою —
болем сваім, несціханым болем.
Толькі б ты жывы!
Сынок, жыві...

Голас жыў, гучаў...
Зглынуўшы ўздых,

Памяць пазірала вінавата:
спела ў Васілёвых вачанятах
прадчуванне нейкае бяды.
Ён малы, і ён не разумеў,
што не маці, Памяць гаварыла,
а заплакаў. Жаласна. Паныла.
Словамі! —
ад іх працяг звінеў...

— Мама! Мамка мая!
Ты прыходзь,
больш нічога не трэба.
Я жывы! Я расту,
дарасту аж да самага неба,
ты вяртайся, прыходзь,
ты толькі прыходзь!

Ён малы, ён зразумець не мог,
што адтуль, дзе маці, не прыходзяць.
Ён яе шукаў і не знаходзіў —
хто б яму у гэтым дапамог?
Памяць?
Мамін голас — побач быццам:
— Мой сынок,
табе расці, вучыцца!
Навучыся помніць, вечна помні:
хату нашу, бацькавы далоні
на плячах сваіх,
мой цёплы голас...
Ты, сыночак, быццам дужы колас,
будзеш жыць, расці —
расці да неба!
Шмат казаць,
наказваць табе трэба —
цяжка гаварыць адсюль, здаля:

на мяне ўжо валіцца зямля,
не грудком,
усёй цяжкою глыбай.
Гэта стрэл...
З-пад ног апору выбіў...
Васілёк, хаця каб ты жывы!
Ты жыві! І за мяне жыві...

Адгучалі, але ўсё балелі
словы ў сэрцы Васілька малога.
Што ён ведаў пра сваю дарогу! —
а гукаў,
гукаў у дзень сцьмянелы,
нібы плакаў:
— Ма-ма! Мама... Мамка-а!

## З БЕСПРЫТУЛЬНЫМІ

Згадкі... Лісткі ў ручаінцы!
Мама... Маленства... Іх сад...
Як ёй вярнуцца назад?
Сцежкай? Прасёлкам? Гасцінцам?
Памяць спрабуе знайсці
раптам забыты напрамак:
лета ў іх садзе, і мама...
Лета — пажухла ў лісці,
сад — недзе студзіць галінкі,
мама... Як хочацца піць!
Промня дрыготкая ніць
дражніць, нібы ручаінка.
Збітыя ногі... Нічога,
неяк жа цела нясуць,
ночы ці дня каламуць
месячы стомлена, доўга.

На галаве у каўтун
збітыя пасмы... Няхай іх!
Толькі б ісці!
Аціхае
боль у ёй — б'е калатун.
Холадна. Не перамесіць
мокрага снегу й пяску —
не адшукае ў ляску
сцежку,
што вышчарбіў месяц.
Горача! Шлях — не спыніць.
Снегам астуджвае скроні,
вуснамі з дрогкіх далоняў
злізвае лужынкі... Піць!
Горача. Хустка цяжкая.
Хутка не трапіцца схоў —
хто і з чыіх тады слоў
слёзы дзяцей адшукае?
Гэтулькі слёз і трывог
трэба ёй несці, данесці!

Сумнае-сумнае шэсце:
Памяць, з наліплым да ног
лісцем, ды голы асіннік.
Сілы ў дзяўчынкі няма,
а даганяе — зіма!
Неба — з настылае сіні.
І не раздзьмуць гэту сінь
ветру:
ў яе калыханне,
ў сон
умярзае дыханне...

Пахне снег, як язмін.



Па снезе ўтаптаным ямчэй
было б...
Але хто яго ўтопча
вось тут, ад бяздомных начэй
за крок?
Аж пакрэктвае хлопчык,
а цягне яе за сабой —
жывая ж! на холадзе дойдзе!
Вясковая. Ў лапцях... Такой
абуткі у Мінску не знойдзеш.
Чаго яна з вёскі сюды —
у гэту каменную пустку,
дзе турмы ды гета?..

Сляды
паперадзе — глыбака, густа.
Прыткнуўся спіной да сцяны,
ізноў павалок. Ачуняла б!
Дзяўчо. Сіраціна вайны.
Як сам ён...
Іх схоў — у падвалах.
Ніхто не спытае: чыя?
Усе — нічые яны сёння.
Без дома. Без хлеба. Сям'я?
Здараецца, хтосьці спрасоння
захныкае: «Ма-ма...»,
ды стынь
патушыць і голас, і згадку.
Звыкаюцца. Страўнік пусты,
рыззё, плоймы вошай...
Спачатку
палохала кожная здань,
з прыдуманых голадам, страхам,

ды звыкліся хутка...
Дастань
іх тут, пад разбомбленым дахам!
— Валодзь! — загукаў...

З-пад зямлі,
аднекуль з каменняў абмерзлых,
хлапчук вылез, гэткі ж малы:
два вокі — з-пад шапкі аблезлай.
Прысвіснуў. Сцягнуў рукавы
ніжэй, каб схаваліся рукі.
— Жывая?
— Цяпло ажывіць.
— Цяпла таго! Рук не адхукаць...
— Давай!
І ў падвал яе — ўдвух! —
занеслі. Паклалі на дошкі.
Дыханнем — усё-такі дух! —
сагрэецца нейк, хоць трошкі.
Цяплей тут...
Дзяўчо ж, як яны,—
бяздомная, родам з вайны.

*

Валодзя, Міколка, Ігнась,
Сяргей... Яшчэ Глеб. І Місюль.
І Косцік. Усіх не назваць,
не ўспомніць у твары дасюль.
Галодныя, ў нейкім рыззі,
выходзілі да цягнікоў
скарынку, капейку прасіць,
а ўведвалі смак кулакоў.
Хто дасць (азірнецца спярша)
сухую галету сваю

ці нашага хлеба крышан,
і тут жа,
наступны,—
ў каршэнь:
не лезь! не хадзі! не прасі!
А голад — не цётка. Цішэй,
натужней звіняць галасы:
— Пан, хлеба... Зірніце на нас!
— Брод... Марку на брод!
— Данкэ шон!
— Паесці што...

Раптам:
— Ата-ас!!
— Аблава-а! Ўцякай...

І пайшло!
Гергечуць салдаты. Дзятва —
у россып. Хутчэй! Хто куды!
То тупат — тупы нечы твар,
то ўсхліпы — наўцёк ад бяды...

*

Злавілі.
Не плача ніхто.
І Памяць. Ля воч — каламуць.
Ідуць яны шчыльным гуртом,
усіх аўтаматы вядуць.
Галодныя. Ў нейкім рыззі.
Малыя. Ні думак, ні слёз.
Адчулі: дарэмна прасіць,
прасіцца...
Мацнее мароз.

— Ты знаў, як суніцы растуць,
Місюль, калі-небудзь іх еў?
— Не ведаю. Не...
— Ты забудзь,
што снег, што мароз!
Сярод дрэў,
на цёплых пасцілках палян
растуць яны, чырвана ўсё! —
у Памяці вусны смыляць
ад холаду.— Мы падрасцём,
і я пакажу. Гэткі смак!
Суніцы...
— Дулная ты шчэ!
А немцы?
— Не, іх там няма!

Пачулася: «Schnell!» — з-за плячэй.

Куды іх?
— Ты ведаеш, Стась,
ты бачыў, як сонца плыве
па хвоях?
— Па хвоях? Якраз!
Зірні вунь на тога, правей,—
не цацка ў яго, аўтамат.
— Ну, ёсць жа не толькі Яны!
Ёсць лес! Азірніся назад...
у тое назад... без вайны!
— І там аўтаматчык.
— Місюль,
Валодзя! Там кветкі. Там чмель...
Нам трэба успомніць — адсюль
убачыць...

Ударыла: «Schnell!»



Ні дрэўца, ні хаты...
Смуга калыхае
канвой, аўтаматы,
і цені іх...
— Feuer!
Па дзецях. Па крыках.
Нібы па мішэнях.
За што іх?
Не ўзнікла
ні ў кога сумнення.
За тое — за гэта...
Загад быў, сакрэтны:
ніякіх бяздомных,
калек, пагарэльцаў! —
ужо ж ад народа
хоць што застанецца...
Загад быў.
Ганебны?
Іх справа — пацэліць.

— За што нас? Мы хлеба...
— Мы есці хацелі!
— За што? Вы ж забралі
і маму, і тату...
— Мы хлеба... Не кралі,
прасілі ў салдата.
— За што нас? Мы дзеці...

Як страшна,
як цёмна,
як холадна ў свеце!
— Валодзя, ты помніш?
Ты цёр мяне снегам,

а пахлі далоні
цяплом... Я дабегла!
Я побач з табою,
я Памяць! — малая
аж плача ад болю:
страляюць, страляюць...

— Місюль, ты маленькі,
пацэлілі ж неяк!
Ты б стаў на каленькі,
упаў! Я не ўмею
падняць, адагрэць вас,—
і плача ад болю,
не верачы смерці,
не верачы болей...

— Валодзя! Міколка!
Сяргей! Вам, няйначай,
пад снегам тым золка.
Я толькі паплачу
і буду адтайваць,
адхукваць вам вочы,
да самае ночы,
я з вамі, я Памяць...

## ПАЎЛІК

Памяць...
Стомлена грузне
ў снезе стомлены позірк...
Памяць? Гэта ж у вузел
кімсьці ўвязаны слёзы
хусткай,
моцна,
крыж-накрыж!

І ідзе — як сляпая,
снежны згемтаны мякіш
невідушча хапае,
трэ то шчокі, то вочы,
што з бяссоння прыпухлі.
Не згадае —
не схоча! —
колькі сонцаў патухла,
покуль, свету чужая,
ходзіць, ходзіць па свеце...

Позірк зноў набліжае
вечар, песню, цяпельца...

— Падкладваю вецце,
апальваю рукі,
не грэе цяпельца
азяблыя думкі.

Ужо ж палягчэла б,
ужо ж задрамала б!
Зіма памякчэла,
а гора — німала.

Зямля не трывае,
мне ж некуды дзецца:
ізноў падымае
не раніца — дзеці.

Гукаюць, цярэбяць —
я мушу падняцца...
Жывая — бо трэба!
Бо як ім без маці?

Падкладваю вецце,
упрошваю вецер...

Не грэе цяпельца,
не грэе цяпельца!

*

— Мама!
— Паўлік, ты змерз?
Прыгарніся!
— Здаецца,
што галінамі лес
нас засыпаць імкнецца,
засыпае ўжо...
— Спі ты!
Божа, божа, няўжо
мы табою забыты?

Зоркі — срэбным дажджом
намярзаюць на голле,
на павекі жанчын.
Засынае наўколле
ў цішыні на плячы —
трызніць, што засынае.
Сон — далёка, ў былым...

— Мама, раніца знае,
што мы прыйдзем? — малы
бліжай горнецца.— Знае?
— А то як жа!
— І смерць
не паспее за намі?
— Спі ты! Дзе ёй паспець!
Мы градою...
— Узмежкам,—
падказаў нехта.— Скрозь
пазаносіла сцежкі.

— Мо адляжа мароз?
— Трэба глыбжай! У пушчу.
— Лепш у прочкі, скажы:
што, як лес не адпусціць?
— Лес жа свой. Не чужы.
Марна карнікі хочуць
абязлюдзіць бары.
— Мама!
— Спі ўжо, сыночак!
— Мы даспім да зары
і — куды?
— Абы далей...
Мо не ўдарыць мароз?
— Вёскі чыста папаляць
злыдні! Д'ябал нанёс...
— Во прыгадваеш — нанач!
— Хіба дзень наш — не ноч?
А ці позна, ці рана,
не замружылі воч,
не спачылі — хоць смерці
напярэймы бяжы!
— Цьфу, дурніца. А дзеці?
— Толькі ж...
— Бо не кажы,
не гнявi сваё сэрца!

Ціха-ціха. Здаецца:
цішыні цераз край...

— Паўлік! Паўлік, цяка-ай!..

*

Акружылі іх — тых, хто не ўцёк,
не схаваўся, пад кулю не трапіў,
павялі...

Паўлік бачыў здалёк
і паляны скрываўлены лапік,
і жанок нерухомых, і край
страшнай сцежкі, і неба цяжкое.
— Пачакай, бо і я... пачакай...—
шэпча, шэпча, хоць ледзьве рукою
(як прыстыў да камля) зварухне,
хоць каму гэта шэпча, не знае.
І здаецца: парыпвае снег
і пагляд на пагляд намярзае.
Лес, і ціша, і...
Не! Ён — кулём,
з елкі, ў снег: лепей з маці...
забітым!
Елка ўздрыгнула, колкім галлём
шкрабануўшы па цвердзі блакіту,
пахілілася. А каб уздых!
А каб гук які, клік — напярэймы!

Памяць, ледзь пераводзячы дых,
бегла следам, гукала. Дарэмна.
Той не чуў. Не пачуў бы, відаць,
анічога — за ўдарамі сэрца:
толькі б матчыну сцежку дагнаць!
толькі б з мамай! —
няхай перад смерцю...

І калі прашмыгнуў пад рукой
аднаго з фашыстоўцаў да маткі,
да жанок, што стаялі гурмой
перад строем цяжкіх аўтаматаў,
страх нібы адступіўся.
Дзіця! —
не ўчапіўся ў руку ці спадніцу,
побач стаў, толькі губы падцяў

ды збялеў: гэта ж мог і спазніцца!
Хай страляюць...
Адно: ён — малы,
самы меншы...
Каб немец пацэліў,—
стаў на дыбачкі, і ад зямлі —
не ўгару пацягнуўся, да стрэлу.
Бы са смерцю мераўся ростам...

Раскалолася цяжка
прастрань:
доўга падаў воклiч пяшчоты —
снегам —
небам! —
«Сынок, нашто ты?
Сынок, нашто ты...»

## ЛЮБА І ВЕРА

Над згадкаю ціша
сышлася — і зноў
вятрыска калыша
сцяну хмызнякоў.
Бяда ж —
за дзяўчынкай!
Каторы ўжо круг!
Не грэе хусцінка
ні думак, ні рук.
А Памяць не кіне
ўспаміны, нясе...

Дзе хлеба з мякіны
паесць, у расе
яго размачыўшы,
дзе мох пажуе.

Расказвае цішы
пра сцежкі свае.
Ад Брэста да Мінска —
ад бед, за бядой...
Усход — ён няблізка,
сваёю хадой
не дойдзеш...

Разводдзе...
Да шчаўя дажыць,
там ягада пойдзе —
ніжы ды ніжы!
Там —
дождж на апенькі.
Арэхам званчэць.
І гэткай маленькай
карміцца лягчэй.
А то ўсяго твару —
што вочы адны!

Расстрэлы. Пажары.
Галодныя сны.
Дажыць бы да шчаўя...
Дажыць бы!



На ганку — вартаўнік. З вінтоўкай.
На немца непадобны. Наш?
— Вы пусціце мяне? Мне толькі
да ранку...

Барабаніць. Марш.
Сагнутым пальцам па парэнчах.
— Я не галодная!

Маўчыць.
Глядзіць убок — там тухне вечар.
— Прамокла, холадна ўначы.
Мо перасплю я?

Барабаніць.
Адно і тое ж. Нейкі марш.
— Вы дазваляеце? Я Памяць.

Не ўздрыгнуў той. Глухі, няйнакш.

Дзяўчынка да дзвярэй. У сенцы.
Да змроку позірк прывыкаў:
жанчына, дзеці...
Ёй здаецца:
упёрлася ў сцяну рука,
а гэта голас:
— Ты чаго тут?
Адкуль?
— Папачаваць. З вайны.
— Ды лепш бы ты лягла пад плотам!
Якая ноч? Заб'юць яны
мяне, дачушак — Любу з Верай...
Любы з іх — не салдат, а кат.
Ты б ціха выслізгнула ў дзверы!

Азваўся паліцай: — Назад!
— Ды не мая то, Гнат. Аслеп ты? —
адказвае жанчына.— Гнат!

Той барабаніць. Без імпэту.
Так. Звыкла. Як і крок назад.
— Вы, цёця, ў нечым вінаваты?
— Я ўрач. Я партызан лячу.

Лячыла... Пэўна, ўчулі каты.
Хадзем! Калі прыйшла, начуй...

І туліць да сябе малую,
і, над калыскаю блізнят
схіляючыся, ўсё спрабуе
сагрэць,
суцешыць свой пагляд.
І знае: сэрца да світанку
збаліцца ад пакутных дум.
І словы ціхай калыханкі
вярэдзіць сум:

— Дзвюх маленькіх дачушак
будзе ціха пагушкваць
со-он.
Сон, нібыта падушка,
прыгарнуўся да вушка:
спаць! спаць!

Спяць вятры за лясамі,
зоркі спяць над бусламі,
спа-аць...
Спяць і зоркі і птахі,
пад карчамі спяць жахі,
спаць! спаць!

Дзвюх маленькіх дачушак
будзе ціха пагушкваць
сон,
што нібыта падушка,
прыгарнуўся да вушка —
со-он...



Вось і золак! Крыжы
рам аконных — выразней.
Матчын голас дрыжыць:
то цяплее, то гасне.
Чутны крокі і смех...

Шчэ паспела здзівіцца:
як расплаўлены снег,
кроплі золка на шыбцы —
а яна са шчакі
іх далонню сцірае.

Ад акна — да дачкі —
да дачушак! —
люляе,
будзіць, хутае іх,
прыціскае да сэрца.
Міг. Яшчэ адзін міг.
Дзверы бразнулі ў сенцах.
Цень застыў у дзвярах,
засланіўшы світанне...
Крык —
не крык, яе страх! —
камяком
пад нагамі:
наступі — і ўпадзе,
і дзяцей не ўтрымае.
Мільганула: «Сама я...»

Думка — вокліч вядзе?
Не, з-за сэрца —
з-за стуку! —
ўжо нічога не ўчуць...

Маці целам, бязрука
адграбла каламуць
брудпай, выстылай сіні
ад дзвярэй.
Крок. І крок.
Крок! — і позірк абдыме,
здэцца, ўвесь белы свет...
Маці.
Памяць.
За імі
хата рушыла ўслед.

*

Рыдлёўку кінулі.
— Капай!
Дзяцей забралі.
Дзеці
не плачуць —
матчына рука
чапляецца за вецер,
што раптам іх разгарадзіў:
не чуюць смерць... малыя...
— Капай! — ашчэрыўся адзін.—
Капай! Пакуль жывыя.

А мо толькі яе?!
Наўрад.
Рванулася да дочак —
у грудзі ўпёрся аўтамат
забойцы, што рагоча,
ашчэрыўшы шчарбаты рот
(смех не кранае слыху).
Рыдлёўка... Выдраны асот...
Пясок... Занадта ціха!

Імкнецца глянуць на малых,
хоць і спіною бачыць
бялявыя галоўкі іх
жанчына.
Не, не плачуць!
Па восем месяцаў — які
у іх яшчэ той розум?

Рыдлёўка... Як працяг рукі,
здранцвелай ад пагрозы...
Адно б дачушак, не сябе,
уратаваць ад здзеку!
Але рыдлёўка ўсё глыбей
закопвае спадзеўку:
не пашкадуюць і дзяцей,
шчэ не было такога...

Устала. Адступіўся цень
ад стогну нежывога.
Зусім сівая галава,
ані крывінкі ў твары.
Застыла.
Плакала трава
ля ног,
рыпелі хмары,
ля плеч, над самай галавой,
шумелі голлем вязы —
яна
маўчала:
і жывой
была і мёртвай, разам.

Калі дзіцячы плач прарос
з зямлі — рукамі! —
слёзы,

дзве чорныя драбінкі слёз,
пакінулі барозны
спярша на шчоках, на губах,
пасля на жоўтым друзе,
што ўсё яшчэ
не кроўю пах,
а цішынёй на лузе...

*

— Люба... Люба...— ручай
коціць белы каменьчык.
— Вера... Вера...— драча
гоніць з засені вечар.
Вецер просіць усіх
абысці той грудочак:
пахавалі жывых —
маці, дзвюх яе дочак.

— Люба... Люба...— дажджы
цыруболяць па голлі.
— Вера... Вера...— стрыжы
рвуць на стужкі наўколле.
Па вадзе, па бядзе —
хмара, небам цяжкая.
Ні сцяжын, ні людзей —
толькі Памяць блукае...

## ВАЗОК

Дарога ад магільнага грудка
так часта спатыкнецца...
Плача Памяць,
цягаючы зашморганы рукаў
па шчоках,

бо слязінкі шчокі паляць.
Бязгучна плача. Кволаю рукой
ад свету, ад вайны не засланіцца:
на многа вёрст няма бяды такой,
што не прасіла б ля яе спыніцца.
А як спыніцца, калі гоніць страх?
Калі ўся Віцебшчына палыхае?

Спыняецца, спыняўся яе шлях
то каля хат — як вёсачка глухая,
то ў гушчары лясным, каля кастра,
які зямлянкі шчыльна акружалі.
Дарослым — сірата, малым — сястра,
ішла і йшла яна, усім чужая,
не ўсведамляючы, куды, чаму —
з бяды ў бяду,
з зімы ў вясну, ў зіму...

*

Добра, зрэдку стагі —
ў белай пусташы гулкай:
то адзін, то другі
стане ноччу прытулкам.
Снег вышэй адграбе
і скубецца — капае
як далей, як глыбей,
колькі моцы хапае.
А куды ёй ісці?
Ці ж бяда яе ўпрэгла?
Сцежкі, сцежкі...

Знайсці б
журавіны пад снегам —
і са снегам глынуць,

не ўздымаючы голаў!
Ды знайдзі...
Каламуць
падступала да горла.
Ноччу — неба ад воч
не адкінуць у шолах.
Здэцца: мыш усю ноч
прашкрабецца у зорах.
Днём — ізноў на мароз
голад гоніць...
Памалу дапаўзці да бяроз,
каб угрызці кавалак
даўкай, горкай кары,
і вярнуцца, здалёку,
да стажка, да нары,
ўкрытай коўдрай аблокаў.

Засынала. А ў сне
чула: поўня па-воўчы
доўга вые на снег,
сіне-чорны уночы.
Спала — холад не спаў:
і ў цяпле — не сагрэцца,
боль у ёй вырастаў
белым вымерзлым дрэўцам,
і рыпеў, і стагнаў,
раздзіраючы цела...
Хоць бы сон адагнаў
дрэўца, цень яго белы!

*

Жанчына... дзеці... Меншаму, Адаму,
два годзікі ўсяго! — як уцякаць
ад кожнае бяды?

Дзень стукне ў раму: «Ратуйся! Немцы...» —
выпусціць рука
шыян ці міску і прыцісне сэрца
да страху камізэлькай — а яно
так гучна, так адчайна-гучна б'ецца,
што дзеці ў слёзы, з меншым заадно.

— Ратуйся! Немцы...

Да акна! — Дуброва
знялася з месца: хто за кім наспеў...
— Хутчэй, дачушкі! Хатулі гатовы,
Адама хутайце!

У двор. У хлеў.
У двор. Каня спяшаецца запрэгчы.
Дзяцей прыспешвае:
— Хутчэй! Хутчэй!
Усё мацней трывога горбіць плечы,
усё павольней дзень над ёй цячэ.
Да хатулёў! — не бачыць анічога,
а рукі ўжо нясуць іх да вазка,
укладваюць. Усаджвае малога.
— Хутчэй, дачушкі! Толькі б да ляска,
да сасняку...

Ужо схапіла лейцы.
Ужо гукнула: «Но-о!»
Крануўся конь.
І тут убачыла іх побач — немцы!
Адзін ля весніц. Торкае штыком.
Бліжэй. Бліжэй. Спыніў каня. Гукае
тых, з вуліцы. Не зразумеўшы слоў,
чамусьці Мар'я чуе, як сцякае
па скроні —

кропляй поту —
думка: «Ўсё...»

*

Яшчэ дастане
свой крыжык срэбны,
прасіцца стане:
— Дзяцей не трэба!
Яшчэ укленчыць,
зацісне рану —
не ўцяміць: вечар
ці толькі ганак
крывёй заліты...

А ка́там — мала:
плач — не забіты,
жыццё стагнала.
Дзіця саўецца —
ў вазок, да маці!
Другое...
Сэрца
адно намацаць
штыком — і стала!
Адразу. Раптам.
А ка́там — мала.
Ім мала, ка́там!
Яшчэ і мукі
ахвяр патрэбны...

Кроў
пляміць рукі —
абрусам зрэбным
бярэ з іх нехта
малую Аню

і садзіць — гэтак,
што не прыўстане,
не злезе з трупаў.

Каня хліснулі.
Той ледзьве ступіць
і стане.
Куля
прабіла вуха —
пайшоў, пакорна...

Ля ганка ўспухла
плямінай чорнай
зямля.

*

Час спыніўся на колькі гадзін...

Конь, нервова паводзячы пысай
на сумотныя ўздыхі рабін,
мёртвай вёскай ішоў. Не спыніўся
ні на роспачны крык варання,
ні ад подыху — дотыку — ветру,
што яго ля гумна пераняў.

Плакаў вечар. Дыміўся ў паветры
звон чырвоных яго капяжоў
за вазком, за парыпваннем колаў.
Над вазком, як над цёмным стажком,
неба страшна свяцілася — гола!
Каб хмурынка! Каб зорка ўгары!
Толькі мёртвае, жоўтае ззянне.
Толькі ззянне —
па ўзмежку зары...
Мар'я Колас і дзеці... І Аня...

— Аня! Аня! (Сляпым матыльком
ў ёй трапечацца, б'ецца свядомасць —
можа, чуе?) Ці спыніцца конь,
павярнуўшы назад, перад домам?
Аня, чуеш? Ці спыніць каня —
хоць пазней! хоць калі! —
гэты вечар?
Я ссадзіла б цябе! — і падняць
і данесці магла... Табе б легчы!

Памяць — гэта яна! — ад вазка
не адстане да самае ночы,
угаворвае боль:
— Да ляска
блізка-блізка. Глядзі! Ты не хочаш?
Ты баішся глядзець? І са мной —
ты баішся? Ці гэтак балюча?
Праклятушчыя!...

Ўзбоч, цалiной,—
абраслі асцюкамі калючак! —
цені часта чапляюць пагляд
і адцягваюць, Памяці ж нельга
кожны міг азірнуцца назад:
памірае дзяўчо... не прылегла,
а абсунулася... ў крыві...

— Аня, моцна баліць? Вельмі моцна?
Мне аддай гэты боль і жыві!
Мы з табой дачакаемся сонца,
будзем жыць... Мы так мала жылі!

Стала ціха. На твары, задзьмутым —
болем? вечарам? —
вочы ўзышлі,
у сабе не схрануўшы пакуты.

## НЕ СТРАЛЯЙЦЕ Ў МАМУ!

А няўжо ж не смылела
шляху? — катаў вадзіў,
полю? — жытам гарэла,
ветру? — попел студзіў...

А няўжо ж не стаміўся
шлях? — калоны ішлі,
дол? — ад трупаў гнаіўся,
вецер — выў у галлі...
Памяць, часта без сілы,
як па крузе адным,
з вёскі ў вёску насіла
водгук кожнай бяды —
з долі ў долю...
На поўнач
ці на поўдзень ішла:
столькі гора —
не помніць,
каб спачыла душа,
столькі слёз,
што хоць жменю
кожны ёй сыпане.
І — гучней галашэнні,
і праклёны — гучней.

*

Блакада мёртвай пятлёй
лясы захліснула —
дарэмна хвоі галлём
ад куль, ад чорнага гула
спрабуюць люд засланіць.

На крылах выбухаў — плямы
крыві, лісця, медуніц!

Не ноч, а чорная яма,
і чорна свеціцца ў ёй,
на дне недзе,
вока смерці.
Адбітак поўні? Рукой
яго з пагляду не сцерці.

Убок? А дзе ён?
З-пад ног
зямля ўзлятае — і неба,
не неба, чорнае дно
той ямы,
ўтрымліваць трэба.
— Сыночак! Мо дабяжым?

І ўжо няма куды бегчы:
асколкі мін, як нажы,—
у хвоі! у крыкі! у плечы!
Карэнне — вузламі,
дождж
лістоты, грудак крывавых
на крык дзіцячы памнож —
і гэта яшчэ не ява.
Блакада. Ўсё — да жуды! —
пад колер крыві і ночы...

— Сыночак, дзеткі,— сюды!

Куды? Каб нейкі куточак,
цямнейшы за гэту ноч,
цішэйшы за гул смяротны!
Ужо ж паспрабуй тут збоч:

у пастцы! — як калаўротам,
закручаны ў бег, у страх,
адчайны і безвыходны.
Світанне шукала шлях
і не знаходзіла...

— Родны,
сыночак, мо ляжам тут,
мо неяк перачакаем?
— Заб'юць...

Любая з мінут —
нібыта ноша цяжкая:
ніяк не зглынуць уздых,
і не паспець
за паглядам.
Усе бягуць ад бяды,
адной і той жа... Блакада!

— Іван, сыночак, спыніся!
Іва...
— Не страляйце ў маму!

І ціха. Ад скроні ўніз
струменьчыкам —
след крамяны...
І ціха. І ўсё званчэй,
бы выбухі не грымелі,
звініць паблізу ручэй,
салоўка выводзіць трэлі...

*

— Мама! Ўставай,
я падтрымаю.

А галава
(ледзь падымае
маці з вады) —
хіліцца зноўку.

— Зараз я... дых...
коле пад бокам...

— Мамка, ды не,
ты падымайся —
ты за мяне
моцна трымайся!
Я... я падрос,
мама!

І мала
слоў гэтых, слёз,
стомленай волі,
сілы ў руках
сынавых, кволых.

— Ма-ма!
— Ану! —
згробшы хлапчыну,
ботам піхнуў
карнік жанчыну.—
Будзе й табе!
Прэч, покуль цэлы...
— Мама!! — слабеў
хлопчык змярцвелы.
Вырваўся ж ён —
і, ад удару,
ў чыйсьці праклён
тыцнуўся тварам.

Гналі далей —
тых, хто падняўся.
Выкрык — балеў...

Як жа ж у часе
гэты вось дзень
неяк пазначыць?

Перш — па вадзе,
плачаш не плачаш...
Потым — бягом —
паўз матацыклы.
Жудасны гон!
Покуль не зніклі
поле, сляды —
бегма, да смерці...

— Мама! — ў бяды
просяцца дзеці.
Як ён, Іван?
Дзе ён? Каторы?
Тушыць трава
бег, а маторы
сытым выццём
гоняць і гоняць.
Полем. Жыццём.
Чорныя промні
слепяць і іх —
падаюць дзеці...
Каб перадых!
Бегма! Да смерці.

## МАТЧЫНЫ ВАЛЁНКІ

Сутнасць аперацый «Веттэрмельдунг»?
Акупанты нішчылі сляды
масавых забойстваў — і да неба
уздымаўся, плыў смуродны дым.
І да неба полымя шугала:
сотні, тысячы, мільёны — ў прах!

Набліжаўся фронт.
Зямля ўздыхала,
прыглушыўшы спадзяваннем страх.
Памяць слухала, прыклаўшы вуха
да пяску,
далёкія шляхі.
Сорак трэці...
З восенню не тухлі
вёскі, вёрсты гора і тугі.
Снег, упаўшы, прарастаў кастрамі —
сцюжы іх сляды не замялі,
снег ішоў, ішоў, ішоў ад рання —
не прыкрыў, не прыкрываў зямлі.
Абмярзаючы, да драбаў голым
быў прасцяг. Гукні каго —
ў адказ
брэх аўчарак, стогн,
і зноў наўколле,
сцяўшыся, маўчыць... Нячутна час
аддзірае мёрзлыя гадзіны
ад паглядаў, твараў, рук людзей —
лагер! Лагер смерці.
Не адзіны —
тут, далёка ад усіх падзей,
у Азарычах...
З Бабруйска доўга

Памяць вёў сюды балючы шлях.
Трыццаць тысяч мёртвых?!
Холад... Змога...
Хто з жывых перажыве свой жах?

*

— Мо з малых хто, з дзяцей,
уцалее і выйдзе? —
Памяць стома гняце...
Дзень мінае. І тыдзень.
І другі. І няўцям,
хто схіліўся над ёю:
— Ты трымайся жыцця!
— Скрозь жа холад зімою.
— Лета, восень, зіма...
Мама ў сцюжу памерла.
Мне валёнкі... сама...
— Я баюся!
— Ты змерзла.
Калі мерзнеш — страшней.
Мы дык, хлопчыкі, звыклі.
— Каб дажыць — але ў сне!
Толькі сны недзе зніклі.
— Як жа зніклі? А я...
— Ды цішэй вы! Ахова!

Шчыльна-шчыльна стаяць —
вусны ў вусны —
над словам,
а хутчэй не над ім,
над дыханнем сцяплелым:
пара...
Згадвае дым
чыйсьці позірк з'інелы.

Каб агню — хоць з далонь! —
адагрэліся б крышку,
ды на кожны агонь —
стрэл.
Расстрэльваюць з вышкі.

Не чуваць галасоў...
Што ім, нелюдзям, трэба?
Адабралі ж усё —
толькі холад, ды неба,
ды ільдзіны гадзін,
што на думкі намерзлі...
Ноч міне —
не адзін,
сотні трупаў на снезе.

Так жадаюць яны,
каты.
Што ім,
што — дзеці?
Што няма ў іх віны
перад светам?

— Раздзецца! —
загадана адной,
з дзіцем,
потым наступнай,
потым...
Людзі — сцяной —
адхіснуцца, адступяць,
і на мёрзлай зямлі
застанецца апратка
тых, каго адвялі
азвярэлыя каты.



Страляюць? Ды не.
Прытупваюць. Ходзяць.
Парыпвае снег —
бы крокі лагодзіць,
бы крык немаўлят
прыглушвае, тушыць:
не прыме зямля
застылыя душы —
успыхне касцёр,
астатніх пагрэе...

Смяюцца? Жыццё
сагрэцца не ўмее —
чарнее ў жанок,
у кожнае, позірк,
прымерзлы да ног:
на гэткім марозе
дыханнем адно
дзяцей укрываюць,
а тыя даўно
заціхлі...

Страляюць?
Ды не. Гэта стук:
жанчына — за дзіцем,
што выпала з рук...
Другая...

— Глядзіце!
Яны... А затым —
наступныя! Заўтра!

Драты і драты.
Ад іх паласаты

узмежак зімы.
Далей жа не глянеш.
Зноў стук. Ледзяны.
Халодны. Бы ўяўны.
Так б'е калатун,
і думкі — у россып.
Ратуй не ратуй
цяпло:
як марозам —
па сэрцы —
той стук,
больш часты,
больш гучны.
Нібы ў пустату...

Балюча. Балюча!
Навошта зіме
дзіцячыя цельцы?
Паленцы? Не-не!
Ля іх не сагрэцца...

*

— Толя! Чыкілёў! Ідуць па нас...
— Ты адсунься. Як мага далёка.
Мала што!

Фашыст — на гэты раз
хлопчыкаў нагледзеўшы, валёнкі
на нагах у іх, ішоў сюды.
Памяць бачыла, як раўнадушна
мёртвых ён пераступаў,— худы
і рабы, нібыта залатушны,
быў не страшны. Каб не аўтамат,
каб не жорсткасць —

не салдат, салдацік.
Падышоў. Спярша зірнуў назад,
потым — дзецям, знакамі:
скідайце!
Торкае нагой: хутчэй! хутчэй!

Толя, губы закусіўшы, злосна
тузануўся прэч — не ад вачэй!
Ён яшчэ, яшчэ! — не ад пагрозы...
Разувацца? Але як тады
прычакаць вясну і вызваленне?
Халады ж, такія халады,
і абуты — мерзне...

З недаўменнем
немец зіркаў на яго, вакол,
не адразу зразумеў, што хлопчык,
асядаючы на мёртвы дол,
разувацца, замярзаць не хоча.
Зразумеўшы, дзергануўся ўвесь —
зморшчына наўскос ілба пралегла,
стрэліў проста ў твар дзіцячы...
Лес,
зашумеўшы, стрэл асыпаў снегам
і ў адчайным руху заламаў,
быццам рукі, гнуткія галінкі.

Памяць закрычала, і сама
сцялася ад крыку...

## ПАМЯЦЬ

Не ўспамінаць? Не-не,
не ўспамінаць ёй нельга:
і сто снягоў міне,

і больш! —
пад гэтым снегам,
што колеру бяды,
што колеру няволі,
застынуць не гады,
сляды гаротнай долі
дзяцей, жанок, дзяцей...

Як шмат жывому трэба!
Цяпло, высокі дзень,
над ім — высока — неба...

*

Прылегчы б! Проста ў снезе...
У малой
цяплеюць думкі. Дзень такі. Вясновы.
І сонца. Над самюткай галавой.
І радасць — песня дудкі пастуховай!
Яна плыве, пагойдвае абшар,
пагойдвае сцяжыну... Можа, сніцца
ёй гэты дзень, што, як блакітны шар,
размаляваны промнямі? Сініцы
на тонкім вецці дня? Зялёны дым
травы за сцежкаю? Пах сырадою?
Не, не! Яе, яе гэта сляды
бягуць за аблачынкай над вадою.
Яна гэта! І лотаць — да плячэй.
І вецер лёгка-лёгка кружыць бусла —
лісцё халодным полымем цячэ
пад крыламі. І цішыня загусла:
бяры, як каравай, яе ламай.
Мо адламаць? Шкада. Яшчэ мінутку...
Бяжыць. Куды — не ведае сама.
За позіркам.

На спеў чароўнай дудкі.
Насустрач неба — сіняя рака,
насустрач — ззянне!
Промні — быццам стужкі!
Ды хтосьці —
хто? —
гукае, загукаў:
— Дачушка! Прачынайся ўжо,
дачушка!

*

Агледзелася... Міг назад
ёй сніўся іншы дзень. Вясновы!

— Браточкі! — бег да іх салдат,
дабег і захлынуўся словам.—
Брато...
Хто шкандыбаў, хто поўз —
сцяна людзей, абмерзлых, страшных —
на крык яго, на роспач слёз,
цяжкіх, салдацкіх.
— Гэта ж — нашы!!
— Прыйшлі!
— Адбілі, землякі!..

Калі баец, падняўшы Памяць,
яе з'інелае шчакі
крануўся дрогкімі губамі,
яна, відаць, упершыню
за час, што сплочаны пакуце,
памкнулася ўсміхнуцца дню —
дню і яму, байцу, ўсміхнуцца.
І не змагла. Яна цяпер
не ўмела, не магла ўсміхацца —

вучыцца мусіць...
— У цябе
ёсць хто з радні? — здалеў спытацца
баец, які ўсё цёр і цёр
дзіцячы тварык, рукі.— Ўспомні!
Ці ёсць?
— Не ведаю. Жыццё...

Ён быццам штосьці сцёр са скроні —
і стала бачна сівізна.
— Жыццё! Вось так, дачка, і трэба.
З людзьмі, з народам — не адна,—
і ўздых зглынуў.

Запахла хлебам,
духмяным, як сляза гарачым...

Не Памяць плача, вочы плачуць,
адтаючы ад дабраты
і вернутай тугі па хаце,—
вачыма кожнага дзіцяці,
што не перажыло бяды.

*

Дзе сёння Памяць? У мінулым
згубіўся след: ёй восем год,
на хустцы іней, ногі змуляў
шлях,
плечы — груз людскіх нягод...
Яе вось гэткай помніць кожны
з дзяцей Айчыннай.
Іншай — мы.

У год шчаслівы, пераможны,
ступілі мы ў жыццё — з зімы,

з вайны...
Здавалася, дагэтуль
здаецца часам: цішыня,
высокая, пад колер кветак,—
усюды на зямлі, штодня!
Здавалася: ў дзяцей павінна
быць мама —
значыцца, і ёсць!
Ва ўсіх!
У кожнае з дзяўчынак,
як і ў мяне.
Я помню злосць,
з якой я бараніла веру:
няма дзяцей без мацярок,
так не бывае...

Невымерным
быў час:
за крокам — новы крок.
Вясна, зіма, вясна...
Чытаю,
калі і слова — цэлы том,
сама, па літары складаю
імя двара: «Дзіцячы дом».

Малая, з кніжкаю, устала
насустрач крокам.
— Вы да нас?
— Ды мы тут...—
з хатулька дастала
гасцінцы мама.— Мы якраз
ішлі паўз двор ваш. Вось гасцінцы!
— Не трэба. Дзякуй! — і ўзяла.
— Ты ў школу ходзіш? Вучаніца?
Ты з мамай?

Тая падняла
пагляд, а ў ім глыбока слёзы
стаялі.
Выдыхнула: — Не...
І адышлася.
Мама — позна! —
мяне з дакорам тузане;
— Во, то ж дзіцячы дом. Сіроткі.
Без мамы. Без бацькоў! З вайны...
— Ну, ёсць жа, ёсць жа хтосьці ўсё-ткі
і ў іх! — не чула я віны.

Яна, святлеючы вачыма,
сказала ціха:
— Ёсць. Айчына.



Ёсць Айчына! Вышэйшага,
больш святога — няма.
І любоў не прыспешвае
словы, быццам сама
вывярае іх — кожнае! —
шляхам, лёсам, жыццём.

Зноў навіны трывожныя,
кожны з памятных дзён
вымяраецца стратамі,
войны спальваюць век —
імі быццам заклятыя
і зямля й чалавек.
Горам шлях вымяраецца,
горам, чорнай бядой...

Марна поім штораніцу
сны жывою вадой:

мы не вырасцем з памяці,
мы — нашчадкі вайны.
Горкнуць, чэзнуць, зліпаюцца
у бяссонніцу сны.
Горкнуць, чэзнуць бяссонныя
ночы — дзе той спакой!
Суцяшэнні казённыя,
мабыць, ёсць пад рукой,
на выпадак, у кожнага.
Трэба ж іншае — свет
без вайны, без трывожнага
калыхання ракет,
неба, сонцам высокае,
каб сцяной — каласы,
галасы нашы звонкія.
Мір патрэбен. Усім!

Гэта ж слова балючае —
слёзы згадак маіх.
Ад імя ўсіх замучаных.
У імя ўсіх жывых.



# ЗМЕСТ

**Бондар Т.**
Б 81 Спадчынны боль: Паэзія/Маст. В. А. Тарасаў.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 150 с.: іл.

Новы зборнік паэткі склалі два раздзелы — «Кніга песень», у які ўвайшлі кароткія паэмы-песні паводле матываў народных легенд, і «Кніга плачаў», дзе змешчана паэма «Мы родам з вайны».

Асэнсаванне гістарычнага шляху, што прайшоў наш народ, багатая песенная спадчына — асноўныя матывы зборніка.

Б $\frac{4702120200-005}{М302(05)-87}$ 43—87 **ББК 84Бел7**

Таиса Николаевна
**Бондарь**

# УНАСЛЕДОВАННАЯ БОЛЬ

Поэзия

Минск, издательство
«Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк*
*Мастак В. А. Тарасаў*
*Мастацкі рэдактар А. М. Малышава*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктар Т. В. Трубач*

ІБ № 2629

Здадзена ў набор 01.07.86. Падп. да друку 26.11.86. АТ 21431. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,56. Ум. фарб.-адб. 5,71. Ул.-выд. арк. 6,32. Тыраж 4000 экз. Зак. 2614. Цана 85 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005 Мінск, Чырвоная, 23.